E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 23 (28) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА СНЕЖАНЬ 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

**Наваселле**

## Беларускі Дзед Мароз атрымаў маёнтак

Летам гэтага года кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка пасля наведання Белавежскай пушчы прыняў рашэнне аб стварэнні тут сядзібы Дзеда Мароза. Яна знаходзіцца за 10 кіламетраў ад цэнтральгага ўезда.

Як паведаў генеральны дырэктар Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» Мікалай Бамбіза, галоўныя пабудовы сядзібы былі ўзведзены з дрэва на працягу трох месяцаў: гэта дом Дзеда Мароза, дамок Снягурачкі, музей падарункаў, якія пасылаюць ім дзеці, вятрак. Будуць тут і скульптурныя кампазіцыі з героямі любімых дзіцячых казак, Камень жаданняў, а на двары будуць хадзіць прыручаныя ласі. Дарэчы, месца абрана невыпадкова – побач з сядзібай расце самая высокая навагодняя ёлка Еўропы, яе вышыня – 40 метраў. Аўтарам мастацкіх кампазіцый выступіў вядомы рэзчык па дрэве Аляксандр Масло.

Будаўніцтва сядзібы каштавала 300 мільёнаў рублёў. Яна зможа прымаць 700 наведвальнікаў на дзень. Кошт квітка для дзіцяці складзе 5 тысяч рублёў, для дарослага – 12 тысяч. Наведвальнікаў сядзібы экскурсійнымі групамі не меней дзесяці чалавек будзе дастаўляць у сядзібу праз тэрыторыю пушчы транспарт «Нацыянальнага парку»

Дзед Мароз – штатная пасада, яго і Снягурачку можна будзе наведаць ў любы дзень года, з імі можна ліставацца і паведамляць пра свае жаданні.






Якуб Колас у год набыцця машыны

Андрэй Данілавіч Міцкевіч, унук Якуба Коласа, цяперашні гаспадар машыны

Вось пад такім сціплым, але «вытанчаным» нумарам (4+4=8, забыць немагчыма), паважліва зарэгістравала машыну паэта тагачаснае ДАІ

# Коласава «Победа»

Фотарэпартаж глядзі на стар. 9

# Новы год прыдзе двойчы



Сёлета для беларускіх тэлегледачоў новы, 2004 год, надыдзе двойчы. Сьвяточная навагодняя праграма на Першым нацыянальным канале пачнецца а 23-й гадзіне менскага часу, ці апоўначы паводле маскоўскага, разам з боем крамлёўскіх курантаў. Так задумалі аўтары сьвяточнага шоў, якое з ініцыятывы беларускага амбасадара ў Расейскай Фэдэрацыі Уладзімера Грыгор'ева здымалася ў Маскве і атрымала назоў «Беларусь–Расея: Новы год разам». Якія сюрпрызы ў навагоднюю ноч падарыць Беларуская тэлевізія?

Паводле задумы арганізатараў сьвяточнай праграмы, беларусы павінны будуць выпіць ня меней як два келіхі шампанскага «за Новы год, за новае шчасьце» – першы раз з расейцамі, а другі раз ужо са сваімі суайчыньнікамі. Вось так сёлета ў чароўную навагоднюю ноч беларусы апынуцца адначасна ў двух гадзінавых паясах. Упершыню 31 сьнежня з экранаў тэлепрымачоў будуць радасна ўсьміхацца і віншаваць беларусаў шматлікія расейцы - палітыкі, бізнэсоўцы, людзі навукі і мастацтва. Гэта плён сумесных фантазіяў і высілкаў беларускай амбасады ў Маскве і Фэдэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расеі». Апошняя вядомая сваімі інтэграцыйнымі настроямі й складаецца ў асноўным з былых партыйных і савецкіх чыноўнікаў, якія, як рухнуў СССР, не захацелі вяртацца на радзіму і пазаставаліся ў Маскве.

Дзеля справядлівасьці, многія з запрошаных на тэлешоў сапраўды маюць беларускія карані, але толькі гэтымі даўнімі каранямі яны і зьвязаныя зь Беларусьсю. Да прыкладу, сьпявак Юры Антонаў, які колісь жыў і вучыўся ў Маладэчне. Нобэлеўскі ляўрэат Жарэс Алфёраў і кіраўнік нафтагазавай кампаніі «Ітэра» Ігар Макараў нарадзіліся ў Беларусі, але бываюць тут зусім рэдка. Разам зь імі пра вечную дружбу двух славянскіх народаў каля елкі будуць гаварыць расейцы, якія сэнсам свайго жыцьця апошнімі гадамі зрабілі пабудову гэтак званай саюзнай дзяржавы. Візытоўка савецкага песеннага жанру – Пахмутава з Дабранрававым, былыя – сьпікер расейскай Дзярждумы Генадзь Селязьнёў і кіраўнік Цэнтрабанку Расеі Віктар Герашчанка, якога цяпер можна лічыць палітыкам, паколькі ён актыўны ўдзельнік думскага блёку «Родина».

Крыху новае імя ў інтэграцыйных працэсах – мастак Аляксандар Шылаў, якога два тыдні таму Аляксандар Лукашэнка ўзнагародзіў ордэнам Францішка Скарыны. На запіс тэлепраграмы ў Беларускай амбасадзе ў Маскве завітаў таксама патрыярх усяе Русі Алексі II. Такім чынам, на экранах тэлевізараў зьявяцца людзі, якія цалкам падзяляюць высілкі беларускага кіраўніцтва ў арыентацыі на Расею і на аднаўленьне савецкай ідэалёгіі.

Але ў навагоднюю ноч людзі чакаюць на экранах перадусім зорак эстрады. Акурат мінулай начы адбыўся запіс забаўляльнай часткі праграмы ў менскім начным клюбе «Гудвін» (былы бар «7 пятніцаў»). Як расказаў адзін з удзельнікаў, усю ноч там скакалі 35 вядучых розных праграмаў БТ, якія, паводле сцэнару, імітавалі сьпеў расейскіх ды савецкіх шлягераў. А забаўлялі ўсіх беларускія «зоркі», сьпевакі і акторы - Кірыл Слука, Ларыса Грыбалёва, Алена Ўнукава ды іншыя.

Адзін са спонсараў тэлепраекту – расейскі прадпрымальнік Мікалай Агурбаш. Дарэчы, Анжэліка Агурбаш, жонка бізнэсоўца – Ліка Ялінская, якая некалькі год таму зьехала зь Беларусі і фактычна зьнікла са сцэны. Аднак 31 сьнежня Анжэліка дэбютуе ў якасьці тэлевядучай на БТ. Яе мы ўбачым у імправізаванай студыі ў беларускай амбасадзе.

**Ігар КАРНЕЙ,**
*Радыё Свабода*

***Ад рэдакцыі.*** **Гэтая разумная ідэя вартая далейшага развіцця. У гэтым годзе ўжо не паспець, а на наступны БТ можа наладзіцьу дадатак да расейскага святкавання сустрэчу Новага года а 1-й гадзіне ночы разам з палякамі (куранты на Каралеўскім замку праб`юць 12 гадзін), а 3-й гадзіне Новы Год будуць вітаць французы, мы можам далучыцца да іх, а потым сустрэць 2005 год сумесна з кубінцамі. І такім чынам не замкнемся ў сваёй прасторы, а Дзед Мароз прыдзе 5 разоў.**

## БЕЛАРУСКАЯ ЁЛКА!




На вялікі жаль арганізатары дзіцячых ёлак чамусьці не падумалі пра тое, што ў нашай краіне акрамя рускай ёсьць дзяржаўная беларуская мова. Практычна ўсе прапанаваныя для наведваньня ёлкі на рускай мове. У сувязі з гэтым суполка Таварыства Беларускай Мовы «Беларуская Музычная Альтэрнатыва» вырашыла зладзіць сьвята для беларускамоўных дзетак. Такім чынам:

**2 студзеня ў Палацы Культуры Ветэранаў (Я.Купалы, 21)**
**БЕЛАРУСКАЯ ЁЛКА**
**«Навагодні акіян радасьці».**
**У праграме цікавы дзіцячы спектакль, дыскатэка з гульнямі, конкурсамі і падарункамі каля ёлкі са Святым Мікалаем!**
**Пачатак 12:00.**

Кошт квітка 2.500–3.000. Звяртаемся для зацікаўленых аказаць магчымую падтрымку: прыйсьці са сваімі дзеткамі альбо паведаміць сваім знаёмым.
Калектыўныя заяўкі атрымаюць дадатковыя скідкі!
А чытачам «Новага часу» невялікі прэзэнт ад арганізатараў!
Кантактныя тэлефоны: 8–0296–490888, 8–0297–662425.

# Прапанова Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

**Аб выкарыстанні беларускай і рускай моў у сферы абслугоўвання, абарачэння банкаўскіх пластыкавых картак і ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання**

У Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь у парадку артыкула 40 і часткі першай артыкула 116 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь разгледжаны звароты грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» па пытанні аб роўным выкарыстанні беларускай і рускай моў на беларускай чыгунцы, а таксама пры атрыманні грамадзянамі страхавых пасведчанняў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання, выпуску ў абарачэнне банкаўскіх пластыкавых картак, маркіроўцы тавараў.

Вывучыўшы палажэнні Канстытуцыі, Грамадзянскага і Банкаўскага кодэксаў, законаў «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», «Аб індывідуальным (персаніфікаваным) уліку ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання», «Аб абароне правоў спажыўцоў», «Аб чыгуначным транспарце» і іншых актаў заканадаўства, якія датычацца ўказанай праблемы, Канстытуцыйны Суд устанавіў наступнае.

Згодна з артыкулам 17 Канстытуцыі, дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

У адпаведнасці з артыкулам 2 Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» Рэспубліка Беларусь забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Яна праяўляе дзяржаўны клопат аб свабодным развіцці і ўжыванні ўсіх нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі. Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Ім гарантуецца таксама права звяртацца ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове (артыкул 3). У якасці гарантыі правоў грамадзян пры разглядзе дакументаў, што падаюцца імі ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні, выступае абавязак пералічаных арганізацый прымаць і разглядаць дакументы, якія падаюцца грамадзянамі на беларускай і рускай мовах (артыкул 5). Да таго ж частка другая артыкула 6 указанага Закона ўстанаўлівае, што стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні дзяржаўнымі і іншымі нацыянальнымі мовамі цягне ўстаноўленую законам адказнасць.

Згодна з артыкулам 13 Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», на транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываецца беларуская або руская мова. Аднак пры фармальна-юрыдычным раўнапраўі дзяржаўных моў на практыцы баланс іх ужывання не захоўваецца, што выклікае справядлівую заклапочанасць у грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» і грамадзян. У шэрагу сваіх зваротаў яны прыводзяць наступныя прыклады парушэння фактычнай роўнасці дзяржаўных моў.

У прыватнасці, заяўнікі ўказваюць, што на чыгуначных вакзалах, станцыях, электрапаяздах аб'явы для пасажыраў робяцца пераважна на рускай мове, бланкі праязных дакументаў для праезду на чыгуначным транспарце, рэкламныя буклеты, афіцыяльныя канверты Беларускай чыгункі таксама афармляюцца на рускай мове.

Выдача грамадзянам страхавых пасведчанняў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання і банкаўскіх пластыкавых картак ажыццяўляецца толькі на рускай мове, што абгрунтоўваецца пэўнымі тэхнічнымі прычынамі.

Дзяржаўны стандарт СТБ 1100-98 «Прадукты харчовыя. Інфармацыя для спажыўца. Агульныя патрабаванні» дае вытворцу (прадаўцу) прадукцыі магчымасць даводзіць да спажыўцоў інфармацыю на беларускай і (або) рускай мове. Тым не менш на практыцы тавары маркіруюцца таксама пераважна на рускай мове.

Ёсць і іншыя прыклады пераважнага ўжывання рускай мовы.

У сувязі з выкладзеным прапануем разгледзець пытанне аб унясенні ў Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і іншыя акты заканадаўства змяненняў і дапаўненняў, здольных забяспечыць фактычную роўнасць дзяржаўных моў.

Уносіцца ў парадку артыкула 7 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь».

Прынята на пасяджэнні Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь 4 снежня 2003 г.

**Старшыня Р.А.Васілевіч**

# Помнікавая містэрыя

Грамадскае жыццё ў нашай краіне рэдка абыходзіцца без скандальных падзеяў. Калі, здаецца, і падставаў няма псаваць сабе і людзям нервы, дык пільнае вока іх адшукае. Апошні скандал (які можа перарасці ў скандал года) звязаны з намерам рэгіянальных уладаў правесці дэмантаж (папростаму кажучы – руйнаванне) помніка, пастаўленага ў гонар паэткі Ларысы Геніюш у Зэльве на пляцу Траецкай царквы. Пікантнасць гэтай гісторыі надае тое, што бюст быў усталяваны ў лістападзе, яго ўрачыстае адкрыццё прайшло ў нядзелю, 29-га, а на царкоўным падворку ён з'явіўся з блаславення патрыяршага экзарха Беларускай царквы мітрапаліта Філарэта, якое, па словах святара Траецкай царквы, задакументавана.

## Геніюш

Дзеля падставы дэмантажу ў ход пайшла звычная казуістыка: нібыта помнік Ларысе Геніюш атрымаўся «рэспубліканскага значэння», а ў гэтым выпадку дазвол на ўзвядзенне даецца пастановай Савета Міністраў. Але помнік стаіць на царкоўнай зямлі, і значыць, можа лічыцца помнікам «прыхадскога значэння». І такім чынам Савета Міністраў Беларусі гэта ніяк не тычыцца. Як, дарэчы, і рознага іншага чынавенства. Але Ларыса Геніюш – паэтка, якая была ў сталінскія часы рэпрасаваная, зведала турму, лагер, выйшла на волю ў 1956 годзе, ды не атрымала рэабілітацыі. Аднак агульнавядома, што Ларыса Геніюш на момант арышту была грамадзянкай Чэхаславакіі, у Празе яе і арыштавалі. Ніхто з чыноўнікоў не ведае, чаму яна была арыштавана і чаму не атрымала рэабілітацыі. Апошняе таксама таямніца і для грамадскасці. Можна меркаваць таму, што была замежная грамадзянка. Паколькі апошняя адмова ў рэабілітацыі адбылася ўжо пасля смерці паэткі, то гэта значыць, што ўлады прынялі рашэнне ненавідзець Геніюш вечна. Іншага зместу ў слове «адмовіць» няма. Аднак - за які смяротны грэх вечная нянавісць? Што зрабіла Геніюш супраць Беларусі такога шкоднага, што гэта нікому не раскрываецца? Чаму б не паведаць пра гэта народу, адкрыць яму вочы? Бо немагчыма ўявіць паэткавы «злачынствы», калі з лагера яе выпусцілі, але абвінавачванне не знялі і нават працягваюць рэпрэсіі ўжо адносна яе памяці.

11 снежня аўтарытэтныя беларускія літаратары звярнуліся з адкрытым лістом да ўладаў Зэльвы з просьбай не дапусціць дэмантажу помніка. Зварот падпісалі народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, народныя паэты Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі і вядомы ўкраінскі паэт, прафесар Львоўскага універсітэта Раман Лубкіўскі. У ім пазначана: «Ларыса Геніюш – класік беларускай літаратуры, чалавек нязломнага духу... Разбурэнне помніка, які асвячоны па ўсім царкоўным канонам, стане беспрэцэдэнтным актам вандалізму і выкліча абурэнне грамадзян нашай краіны і рэзананс ва ўсім свеце».

І гэта чыстая праўда. Цяпер, калі помнік гвалтам дэмантуюць, дык гэтая акцыя стане грубай непавагай да мітрапаліта Філарэта, што адгукнецца адпаведнымі пачуццямі праваслаўных вернікаў краіны, а іх – мільёны. А калі недарэчную задуму аб зносе бюста не здзейсняць, дык нашто было нервавацца і ваду муціць?

## Сталін

Варта ўзгадаць, што ў адносінах да помнікаў іншым асобам, якія не рэабілітаваны ці ў свядомасці грамадскасці нясуць віну перад беларускім народам, улады не выяўляюць такой насцярожанай пільнасці і меркаванняў пра «рэспубліканскае значэнне». Не буду ўзгадваць пра помнік Сувораву. На п`едэсталах стаяць больш вядомыя постаці. Прыкладам, гады два назад у Свіслачы быў усталяваны помнік Сталіну – аднаму з найвялікшых злачынцаў XX стагоддзя. І ніхто не ўшчувае мясцовыя ўлады, з чаго гэта яны паклапаціліся пра такое ўшанаванне, не пытае іх, ці атрымалі яны дазвол ад Савета Міністраў і якая канкрэтна чыноўная асоба зацвердзіла яго сваім подпісам, ніхто не патрабуе ад іх дэмантаваць гэтую скульптурную абразу памяці сотняў тысяч людзей, расстраляных, забітых, скалечаных у лагерах, высланых з радзімы. (Магчыма, Савет Міністраў і даў дазвол – ды нідзе пра гэта не паведамлялася.). Бюст гэтаму людажору стаіць не на тэрыторыі нейкай закрытай установы, ці побач з будынкам адміністрацыі (ведамасная тэрыторыя), а ўзведзены на цэнтральнай вуліцы Свіслачы, у прыгожым скверы, дзе гуляюць



дзеці і ўнукі тых мясцовых людзей, якія пры Сталіну жылі без пашпарту, атрымоўвалі па 2 капейкі на працадзень, пад пагрозай высялення йшлі ў калгасы, былі цалкам бяспраўныя, як рабы. Хто ў іх запытаўся згоды? Ці дала б бальшыня людзей Свіслацкага раёна сваю згоду?

Трэба сказаць, што калі ў Свіслацкім раёне знайшлі на нейкім сметніку сталінскі бюст, выкінуты ў 1960-я гады, пачысцілі і ўзнеслі на п'едэстал, ніхто з нашай інтэлігенцыі лістоў пра такое відочнае шаленства не пісаў, не збіраў подпісы пратэсту. Змрочная сімволіка гэтай падзеі атрымала паблажлівае гумарыстычнае стаўленне з боку грамадскасці – маўляў, што пра іх казаць, дзівакі вясковыя, вырашылі выхваліцца. І вось помнік Сталіну стаіць, а помнік Ларысе Геніюш пад пагрозай зносу. Вось такія ідэалагічныя містэрыі ў адной асобна ўзятай вобласці.

Кажуць, што ініцыятарамі адраджэння памяці пра «бацьку народаў» у Свіслачы былі ветэраны арміі і калгаснага будаўніцтва. Кажуць, калі б не Сталін, дык ніколі Заходняя Беларусь не ўз'ядналася б з Усходняй. А сотні тысяч закатаваных ды сасланых – народная плата за ўз'яднанне. Без ахвяраў такое не здараецца. Таму бюст генералісімуса на галоўнай вуліцы раённага цэнтра – выраз народнай удзячнасці ў асобным рэгіёне. Дзе людзі памятаюць сталінскі пра іх клопат лепш (ці горш), чым у іншых раёнах.

## Ленін

Аднак, калі трымацца гэтакай логікі, то трэба неадкладна дэмантаваць усе помнікі Леніну. Бо што, уласна кажучы, яны сёння сімвалізуюць на цэнтральных плошчах беларускіх гарадоў? Якое яны маюць «рэспубліканскае значэнне»? (Дарэчы, пазначэнне «рэспубліканскае» – атавізм савецкіх часоў, які азначаў Беларусь у межах савецкай імперыі). Савецкай улады ў нас не засталося і следу, ад партыі «новага тыпу» бачны толькі знясілены ар'егард з прарасійскім начыннем, «школа камунізму» закрыта на капітальны рамонт, а мноства пралетарыяту перайшло ў нэпманы. Дык куды паказвае працягнутая ленінская рука? Што трэба руйнаваць? Новую буржуазную дэмакратыю, якая ўтварылася ў апошняе дзесяцігоддзе? Самаўладдзе? Сёння за такі заклік Ленін вельмі хутка апынуўся б у Валадарцы ці ў «амерыканцы», дзе пабываў адзін паэт за недарэчны вершык. Але калі ўлада ў асобах чынавенства мае да Леніна такую пашану, дык, можа, варта зноў вярнуць уладныя кампетэнцыі «Коммунистической партии Белоруссии» (а разам – будынкі, машыны, друкарні, дамы адпачынку і г. д). А калі ўлада камуністычныя ідэалы не пашануе, дык сотні аднолькавых помнікаў сведчаць хутчэй аб агульным нездароўі, і трэба правесці іх дэмантаж. Эстэтыкі ў іх кот наплакаў. Дык чаму ў адносінах да помніка выдатнай паэтцы можна нервова патрабаваць неадкладнага разбурэння, а ў адносінах да тыражаваных помнікаў чалавеку, які прынёс беларускаму народу незлічоныя пакуты і шкоду, гэта трактуецца як замах на культуру, дзяржаўны лад і перапісванне гісторыі? Сёння ў любым школьным падручніку напісана, што на сумленні Леніна ляжыць Брэсцкі мір, калі ленінскі ўрад ўратаваў сябе коштам Беларусі, аддадзенай немцам на рабаванне, а неўзабаве дадаўся яшчэ мір Рыжскі, які падзяліў Беларусь на Заходнюю і Усходнюю. Вось як паклапаціўся пра Беларусь гэты «самы чалавечны чалавек». Згодна з дамовай Крамля з Польшчай, да яе адыходзілі 113 тысяч кв. кіламетраў тэрыторыі Беларусі з насельніцтвам 4,6 мільёна чалавек. Такая ж частка Усходняй Беларусі (110 тысяч кв. кіламетраў з насельніцтвам больш за 3 мільёны чалавек) была далучана да савецкай Расіі. Для савецкай Беларусі пакінулі 52,3 тысячы кв. кіламетраў і 1,353 мільёны чалавек. Гэтыя лічбы, якія сведчаць пра ленінскі здзек з беларусаў, павінен памятаць кожны беларус з дзяцінства. Каб не сунуцца ў калоне неакамуністаў ускладаць кветкі «правадыру ўсіх працоўных» і не сюсюкаць пра «дзеядулю Леніна», які стварыў нашу дзяржаву. Нашыя беларускія дзяржаўнікі ўсе пайшлі пад ленінскі, а потым пад сталінскі нажы. Узбуйненні БССР адбыліся пасля смерці Леніна. Дык за што мы ўсім народам, нібыта аслеплыя, аглохлыя вар'яты, вымушаны гэтак дзячыць яму ў кожным горадзе? Тым болей няма за што дзячыць Леніна жыхарам Зэльвы ці Свіслачы, якія былі аддадзены пад польскае панаванне. А ўсё роўна ў Зэльве ў цэнтры стаіць помнік Леніну, які правай рукой ўказвае напрамак жыцця – «правільнай дарогай ідзяце, таварышы». Да царквы, руйнаваць помнік паэтцы, якая пражыла ў Зэльве трыццаць гадоў і, бясспрэчна, прынесла гораду славу. А вось Леніна ніхто не дэмантуе, не кранае, а наадварот, да святаў падфарбоўваюць.







## Высновы

Дык што рабіць у такіх умовах, пры такой блытаніне здаровага сэнсу і чынавенскага розуму? А нічога. Не бегчы дэмантаваць помнікі. Няхай стаяць. І ў гонар шаноўных людзей, і ў гонар монстраў. Ужо калі ў нас жывуць побач і аматары сталіншчыны, і аматары леніншчыны, і будаўнікі капіталізму, і беспартыйныя, і праваслаўныя, і каталікі, і магаметане, і непахісныя атэісты, і разумныя, і не вельмі, дык, панове чыноўнікі, не навязвайце сваю волю ўсім. Вы толькі ў адной з названых катэгорыяў грамадзянаў, і яшчэ невядома ў якой. Не здзекуйцеся з памяці выдатных таленавітых людзей краіны, калі нават і не разумееце велічы і значэння іх працы. Не трэба кідацца ў істэрыку і неразважнымі ўчынкамі выклікаць да сябе пагарду.

**Іван КАЯЛОВІЧ**

# Шкада Лёню

*«Где уж нам, дуракам, чай пить!»*
*А.С.Пушкин*

Тыдні два назад пры выпадковай сустрэчы крытык Леанід Галубовіч шчыра паведаў, што піша рэцэнзію на «раманчык» Уладзіміра Някляева «Лабух», і ў ёй будзе палеміка з рэцэнзіяй на гэты ж твор Таццяны Вабішэвіч, якую надрукаваў «Новы Час».

І вось абяцаная рэцэнзія Л.Галубовіча выйшла ў свет у нумары ЛіМа за 12 снежня. Калі б я асабіста не ведаў Галубовіча і не чытаў яго творчасць часоў «Крыніцы», дык падумаў бы, што рэцэнзію напісаў яго цёзка па прозвішчы, старэйшы ўзростам гадоў на сорак, рэлікт мінулай «галоўлітаўскай» эпохі. З гэтай прычыны адгукацца на цэнзарскую рэцэнзію абсалютна нецікава, але некалькі пасажаў Леаніда Галубовіча вымушаюць да кароткіх заўвагаў.

Яны не закранаюць раман Някляева. Ён напісаў «Лабуха» – цяпер кнігу можна чытаць ці не чытаць. Магчыма, раман некага зацікавіць, магчыма, хутка будзе пакінуты ўвагай. Гэта вырашыць чытач, які ніколі не зважае на крытычныя артыкулы. Ён чытае першакрыніцу і верыць сваім адчуванням. Таму меркаванні маладых ці сталых крытыкаў (Т.Вабішэвіч ці Л.Галубовіча) – не болей як сведчанне таго, што яны твор чыталі і вырашылі публічна паведаць пра свае эмоцыі ці думкі, калі тыя пры чытанні ўзніклі. Таццяна Вабішэвіч, прачытаўшы раман, намагалася знайсці ў ім апроч эпатажных старонак нейкі сур'ёзны сэнс, галоўную задачу аўтара, адлюстраванне сённяшніх праблемаў такога няпростага жыцця – бо не дзеля ж гульні напісаў Някляеў кнігу ў 300 старонак. Галубовіч, зламаны эратычнымі і «бруднымі» пасажамі «Лабуха», нічога іншага не заўважыў і, заплюшчыўшы вочы, паўстаў на абарону літаратурнай і грамадскай маралі. Гэта можна было б зразумець, калі б добры намер крытыка не азмрочылі жахлівыя мроі.

А прымроілася Леаніду Галубовічу, што рэцэнзія Таццяны Вабішэвіч *«замоўна-апраўдальная»*, у кантэксце яго маральных развагаў гэта азначае, што Таццяна Вабішэвіч пісала «на заказ», стала «сарамлівым» адвакатам распуснага твору і адначасна ахвярай «замовы». Наогул, калі мроіцца, што ты сам шчыры і святы, а маладая дзяўчына, аўтарка водгуку на прачытаную кніжку, якая цябе раздражняе, няшчырая, несамастойная і сарамлівая піша процi сэрца, дык варта перахрысціцца. Мо, гэта д'ябал падказвае думаць пра людзей гэтак жа брудна, як «брудна» напісаў некаторыя старонкі «раманчыка» Някляеў. Ва ўсялякім разе не варта падхопліваца і пісаць рэцэнзію на рэцэнзію – гэта не надта высокі жанр, гэта хутчэй паходзіць на гарантаванне непахіснай лаяльнасці свайму выданню. Чаму было б «сталаму літаратару» не разабраць «Лабуха» па костках і паказаць свету, якога «бруду» не пасаромеўся сабраць на 15 друкаваных аркушах знаны паэт, аўтар папулярных песень, узнёслых вершаў і выдатнай ранейшай прозы. Няма такога аналізу, не здолеў зрабіць яго Л.Галубовіч для свайго чытача, і таму прыходзіцца сумнявацца, што крытык чытаў «раманчык» крытычна. Аб «раманчыку» сказана паўслова, ды і тое ёмістымі цытатамі з рэцэнзіі Таццяны Вабішэвіч. А калі ўсё ж насуперак свайму вытанчанаму густу і прачытаў да канца, дык нічога, апроч эротыкі і брудных словаў, не заўважыў – нібыта закамплексаваны маладзён. Вабішчэвіч шукала ў рамане станоўчы змест, Галубовіч – распусту і бруд. Хто што шукае, тое і вышуквае.



ТАНЮ ШКАДА...

*"Это не та, — воскликнул Иаков, увидя в рассвете лицо жены, с которой уже "переспал".*

(В.Розанаў, "Апошнее лісце")

Фантасмагорыя ад Някляева

...парускай нацыянальнай паэзіі "вырас" такі рускамоўны "трохпавярховы" матпераклад...

...меснай працы ў часопісе "Кр... домую, неаднойчы прач... публіку, тэзу Уладзіміра *схільны да кампрамісаў, ...най мяжы, за якую не ... пры якіх варунках...* Д... чаюць нядаўнія публ... "раманчыка" — што мяжа яшчэ не пяройд... паэт пераступіў яе на... былым маральным пры... жа, нават сам Аляксан... аднойчы не ўтры... вал", напісаў не... "Цар Мікіта і сор... ка хадзіла ў спісі... годзе ў 2-м томе... нага збора твор... апублікавана...

Не так даўно я ўскосна і ...асоблена-гідліва паспрабаваў абазначыць межы бруднага і другаснага ў ...астацкай літаратуры. У сваім раз... енні, вядома. І як прыклад ... ...аявы згадаў...

...бліскучай паэмы "Паланэз" і ...на гэта рукой махнулася: ... ходзі... тэкст у спісах, а можа напісаў, мож... дыяпазіцы... там по...

Але дапусцім, Таццяна Вабішэвіч не можа сваім маладым розумам уразумець тыя літаратурныя небяспекі, якія бачыць вопытнае вока Леаніда Галубовіча. Ён убачыў – і папярэджвае беларускі свет, ратуе маладое пакаленне ад шкоднага ўплыву аўтара, якога цягне да «пагранічных рэчаў». Аднак і ў гэтым выпадку не надта шляхетна з боку прафесійнага крытыка кідацца на, па яго ўласным прызнанні, «маладую прыгожую таленавітую дзяўчыну», гудзець аб цнатлівасці і сароміць. Не яна напісала «раманчык», не яна прыдумала сюжэт, сцэны і словы. За што папікаць? За тое, што напісала не так, як падаецца неабходным Галубовічу пісаць пра Някляева, які «за кардонам»? Ці, на ягонае меркаванне, Таццяна мусіла публічна абвясціць, што спаліла «Лабуха» на газавай пліце? Чаму ж нельга думаць аб літаратурным працэсе больш сур'ёзна, чым на гэта здольны Леанід Галубовіч? Цяжка паверыць, што ён атрымаў кампетэнцыю мроіць, павучаць і сароміць Звыш. З якога паверху?

Леанід Галубовіч наўрад ці можа ўсур'ёз думаць, што Уладзімір Някляеў паклаў год пісьменніцкай працы, каб эпатаваць прастадушных крытыкаў ці маладасведчаную ў «пагранічных рэчах» публіку. І любыя газетныя рэакцыі на свой «раманчык», хутчэй за ўсё, успрымае згодна з пушкінскім запаветам: «хвалу и клевету приемли равнодушно». Дык нашто, спадар Галубовіч, было псаваць вочы, штудуючы такі твор свайго калегі па «Крыніцы», паважанага табой паэта, калі чытанне абурае да фібраў душы? Нашто пераажываць нервовы стрэс, хапаць пяро, шукаць карані і выкрывальныя тэзы ў «вясёлай» пушкінскай паэме і падымаць маральны лямант? Нібы прававерны мула, які ўбачыў, што мусульманская жанчына на пляжы скінула паранджу і засталася ў бікіні.

Мне шчыра шкада, што Леанід Галубовіч развучыўся разумець чужыя думкі, у канкрэтным выпадку, ясна сфармуляваныя Таццянай Вабішэвіч думкі пра раман Някляева. Пры чым развучыўся быць аб'ектыўным, нават свой опус назваў не так, як патрабавала занятая ім пазіцыя выкрывання, – **«Шкада Валодзю»**, ці **«Валодзя скінуў лічыну»**, ці традыцыйна – **«Здрада ідэалам грамадства»**, а мудрагеліста выткаў пярсідскі ўзор – ***«Шкада Таню»*** *(глядзі здымак наверсе)*. Гадайце, за што? Бясспрэчна, Леанід Галубовіч адораны талентам іроніі. Гэты талент падказаў яму аздобіць свой тэкст пародыяй на прабачэнне: *«Дарма я, відаць, крыўджу маладую, прыгожую, таленавітую дзяўчыну»*. Відаць, Галубовіч як літаратар адчуў, што ў запале змагання з заганамі Някляеўскага «раманчыка» напісаў не самы радыкальны крытычны твор і не ў той адрас. Сказаць *«Валодзя скінуў лічыну»* не насмеліўся, бо гэта было б надта прэтэнцыёзна і камічна. Ну, а дзяўчына не насмеліцца запярэчыць «сталаму літаратару», які прыпісаў ёй адвакацтва «распусты і бруду» і прычапіўся з намёкамі пайсці паспавядацца ў грахах. Таму напрыканцы рэцэнзіі Галубовіч намазаў язык мёдам і працытаваў верш Т.Вабішэвіч, гэтак мовіць, ураўнаважыў сваю суровасць абвесткай, што «маладая, прыгожая, таленавітая» паэтэса не зусім страчана для беларускай літаратуры.

Мёд у роце хутка растаў, і да рэцэнзіі далапіся візантыйскага кшталту аўтарскае **P. S.** (*ілюстрацыя ўнізе*).

Вось такія дзіўныя маральныя межы, пазначаюца Леаніду Галубовічу, як ён сам напісаў, Звыш. Там, як вядома, пазначаюць межы ўчынкаў дзве сілы – добрая і злая. Здаецца, «сталы літаратар» патрапіў пад моцную залежнасць ад апошняй. Шкада Лёню.

**Кастусь ТАРАСАЎ**

*P.S. Нядаўна даведаўся праз "Нашу Ніву", што "Лабух" намінаваны на ТВЛаўскую прэмію "Гліняны Вялес". Што ж, падумалася, на такую прэмію, відаць, можа і "Лабух" прэтэндаваць, бо, скажам, на Дзяржаўную прэмію У.Някляеў намінаваўся з выдатнай кніжкай паэзіі "Прошча", і ўрэшце атрымаў тую прэмію (імя Янкі Купалы). Неўзабаве ўведаем, ці ўганаруюць у Полацку "Лабуха" "Гліняным Вялесам"?*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

## Таямніцы

# Адкрытыя размовы

Настаўнікі і вучні... Гэта непарыўная сувязь назаўсёды, бо праца настаўніка ёсць будучыня, будучыня мінулага. Успамінаюцца далёкія пасляваенныя гады. Мы, маленькія першакласнікі, месціліся разам з настаўніцай Ганнай Захараўнай у сялянскай хаце. Халодна, зіма. На перапынках настаўніца падводзіць нас да печы, і мы грэем рукі, дакранаючыся далонямі да цаглін. Грэе рукі і Ганна Захараўна. Цеплыня ідзе і ад яе вачэй, такіх ласкавых і добрых, што мы забываемся і пра холад, і пра голад, які пякучай падсоскай зводзіць нашы жываты. З любоўю і замілаваннем глядзім на нашу настаўніцу, любое яе слова і пажаданне для нас бясспрэчныя.

Вось настаўніца пайшла па дровы да старшыні калгаса, сказала сядзець ціха, паклаўшы рукі на парты. Доўга адсутнічала, але ніхто не зварухнуўся, цішыня, як на ўроку. Настаўніцкая ўхвала для нас як узнагарода. (На жаль, не памятаю прозвішча Ганны Захараўны, але яе светлы вобраз застаўся ў памяці назаўсёды).

Прастора асобы настаўніка неабдымная, але самае галоўнае – гэта яго маральны выбар, ад якога залежыць і след, пакінуты ў сэрцах вучняў.

Штодзённая задача духоўны кантакт з вучнямі дае неацэнны накірунак будучай асобе вучня як грамадзяніна і чалавека. Паляпшэнне нораваў, прывучанне да чэснасці і справядлівасці, патрыятызму сродкамі развіцця інтэлекту – гэтыя формы працы настаўніка як выхаваццеля павінны быць першачарговымі. Толькі спалучаючы навучанне і выпяванне асобы, мы зробім перадумовы для глыбокай і стваральнай працы ў будучым самастойным жыцці.



Веды і вопыт – вось стрыжні высокага развіцця, і настаўнік можа паскорыць гэта развіццё, навучаючы на фактах, дасягненнях, даючы ацэнку чалавечай дзейнасці ў адкрытай размове з вучнямі. Стварэнне дыскусійных клубаў, абмеркаванне праблем сучаснага жыцця на зломе вякоў, у якіх нават людзям з сівымі скронямі цяжка разабрацца, становіцца неабходнасцю педагагічнага дзеяння.

Найпершая задача – сфарміраваць у вучняў адносіны да сябе саміх як творцаў уласнай асобы, забяспечыць устойлівыя гуманістычныя ўстаноўкі, якія будуць спадарожнічаць чалавеку па жыцці. І для гэтага трэба стварыць развіваючае асяроддзе, творчы пачатак у дзіцячым калектыве, што паспрыяе ўвядзенню вучня ў свет духоўных каштоўнасцей. Настаўнік можа выконваць гэтую ролю толькі ў стане ўласнага ўнутранага адзінства, пачуцця гістарычнай справядлівасці, а не прыстасавання да абставінаў, бо ад жыццёвага выбару настаўніка шмат у чым залежыць лёс яго выхаванцаў: ці то будзе асоба з высокімі духоўнымі якасцямі, ці чалавек з надламаным характарам, які бачыць сваю лінію жыцця толькі ў матэрыяльных дабротах. І гэта будзе педагагічная няўдача настаўніка, яго віна перад грамадствам. Задача настаўніка – сумець у адкрытай размове з вучнямі звярнуцца і да вопыту нашых папярэднікаў, і да вопыту сучаснікаў. Дзе ж і ў каго, як не ў настаўніка, чэрпаць вучню гэту ўзаемнасць і паразуменне? Менавіта школа павінна абудзіць вучня да самаадукацыі, стаўлення духоўных пачаткаў.

Кантакт узаемных адкрыццяў, апора на законы духоўнага адзінства, выхаванне на веданне радаводных каранёў, паглыбленне ў гісторыю сваёй уласнай сям'і – усё гэта падрыхтуе глебу для патрыятычнага выхавання. І не толькі патрыятычнага, а і экалагічнага, і працоўнага. Чым займаліся нашы продкі, якіх дасягненняў у дабрабыце сваіх сем'яў мы дасягалі?

Беларуская гістарычная навука за апошняе дзесяцігоддзе зрабіла многа цікавых адкрыццяў з гісторыі, культуры і побыту нашых продкаў. І як важна зрабіць вучняў даследчыкамі, шукальнікамі беларускай існасці. А рабіць гэта можна і праз літаратуру, і праз кантакты з вучонымі, цікавымі асобамі, бацькамі вучняў. Дапаможа далучэнне да гісторыі свайго горада, пасёлка, вёскі. Калі там адбываюцца цікавыя справы, абавязкова ў іх удзельнічаць. Ні ў якім разе нельга дапускаць ізалявання вучняў ад навакольнага свету.

Адной з найпершых задач з'яўляецца неабходнасць навучыць вучняў працаваць з літаратурай, з бібліятэчнымі каталогамі, знаходзіць самае галоўнае, умець фармуляваць свае думкі. А плён будзе найвышэйшы – узаемаадносіны настаўніка з вучнямі на прынцыпах духоўнай роўнасці і захаплення. Праца гэтая павінна абавязкова знаходзіць свой творчы выхад у выглядзе дакладаў, рэфератаў, літаратурнай творчасці. А экскурсіі ў музеі, архівы, бібліятэкі дапамогуць зрабіць больш глыбокія доследы, якія, магчыма, стануць накірункамі будучай навуковай працы.

Як добра, калі ў школе не 2–3 настаўнікі, а ўвесь калектыў працуе ўзнёсла, не абыякава, з выхадам на асобу вучня. І ў гэтым сэнсе настаўнік выступае абаронцам духоўнай і асабістай свабоды будучага грамадзяніна. Жыццё патрабуе зоркасці, волі і ўчынкаў, сумлення і гонару. Ці мае права настаўнік стаяць у баку ад выхавання гэтых якасцей?

Не, не мае.

**Ала КАЖЭРА,**
**ветэран педагагічнай працы,**
**СШ № 38, г.Мінск**

# «Саша і Сірожа» яшчэ вернуцца

Кажуць, яны папулярныя таму, што іх гумар блізкі і зразумелы. Свае жарты і гісторыі ўдзельнікі дуэта «Саша і Сірожа» бяруць з жыцця, падслухоўваюць. Таксама як і мову, на якой гучаць дасціпныя развагі пра розныя пытанні і бакі жыцця, погляд герояў на з'явы навакалля. Дзякуючы гэтаму дуэт стаў амаль культавым. Але за модай, як кажуць самі «Саша і Сірожа», яны не гоняцца. Іх гісторыі, простыя і зразумелыя, хоць часам падаюцца нейкімі бессэнсоўнымі. Але ў іх няма пошласці, брудных тэмаў, і пра палітыку яны таксама амаль нічога не гавораць. Гэта ў наш час ужо рэдкасць.

Днямі «Сашу і Сірожу» пазбавілі эфіру на Першым нацыянальным тэлеканале. Перадача на Першым нацыянальным выходзіла ў час, далёкі ад прайм-тайма. Але іх усё роўна глядзелі. Афіцыйная версія скасавання кантракту — «аптымізацыя вяшчання». Не афіцыйная - з'яўленне дуэта ў перадачы «Вести недели», на расійскім РТР у сюжэце «Белоруссия: второе пришествие комиссаров». Дарэчы, да «Сашы і Сірожы» пільна прыглядаюцца тэлекампаніі Расіі і Украіны (у камерцыйным плане).

Мы вырашылі распытаць саміх хлопцаў, што яны думаюць наконт гэтай сітуацыі і дзе плануюць выступаць далей. Сур'ёзнай размовы на гэты конт насуперак маім спадзяванням не атрымалася...

**– У чым, па-вашаму, сапраўдная прычына спынення вашых перадач на БТ?**

**Саша**: Ну не ведаю. Нас кармілі, там было цёпла, а пасля пагналі, кажуць «не рэйтангавыя». Хоць у нас ёсць фанаты.

**Сірожа**: Нехта кажа, што нас любяць толькі некаторыя тусоўкі. Гэта няпраўда. У нас ёсць сябры і ў Гомелі, і ў Рагачове, і ў Магілёве, яны нам расказалі, што запісваюць на відэакасэты нашыя перадачы і з задавальненнем глядзяць.

**Саша:** Я думаю, на БТ проста спалохаліся пасля рэпартажа па РТР. Хоць мы нічога такога не казалі.

**– А што там прагучала?**

**Сірожа:** Мы казалі пра кароў. Магчыма, спалохаліся, што пасля гэтага знізяцца надоі малака.

**– Наконт прыхільнікаў дуэта, здаецца, зараз вы на піку папулярнасці ...**

**Сірожа:** Тое, што ў нас няма паклоннікаў - гэта хлусня.

**Саша:** Столькі прададзена кампактдыскаў і касет, і быццам бы іх набываюць і выкідваюць. Канешне, іх набываюць нашыя прыхільнікі. А яшчэ мы «Медыаперсоны-2003». Гран-пры ўзялі.

**Саша:** Да таго, ж на БТ нас не хацелі ўдзень паказваць, толькі ноччу альбо ў 7.30 раніцы. Калі нас бралі, то баяліся: «хто ведае, чаго ад нас можна чакаць».

**– Ці ёсць зараз нейкія новыя прапановы?**

**Сірожа:** Канешне, ёсць. Зараз выйшаў ужо другі кампакт-дыск. Будзе відэакасета. Запісваем музычны альбом. Ужо некалькі песень гатовыя. На касеце будзе новы гімн горада Мінска.

**Саша:** Мы напісалі песню пра Мінск. Хоць многа ўжо ёсць песень, але мы лічым, што яны недастаткова раскрываюць наш горад. Таму мы вырашылі напісаць сваю песню на мілагучнай мове. Падарым яе жыхарам Мінска.

**Сірожа:** Гэта будзе недзе ў пачатку наступнага года. У нас ў планах зрабіць новую радыёперадачу і тэлевізійную перадачу.

**– На якім канале?**

**Сірожа:** Пакуль мы гэтага вам казаць не будзем ...

**Саша:** ...таму, што самі яшчэ не ведаем. Яшчэ мы ў клубах збіраемся выступаць з лекцыямі.

**– Вашыя героі — хто яны?**

**Саша**: Гэта мы самі і ёсць. Мы як простыя беларусы. Я ведаю, што нас глядзяць і акадэмікі, і таксісты і ўсім падабаецца. Ёсць, канешне, каму і не падабаецца. А гумар не можа ўсім падабацца. Кажуць, што мы мову каверкаем. Мы выказваем свой погляд на тое, што адбываецца. Праз сябе ўсё прапускаем.

**Сірожа**: А мы простыя хлопцы. З вёскі прыехалі ў горад.

**Саша**: Калі існуе мяжа паміж вёскай і горадам, дык мы якраз з гэтай мяжы.

**– А па прафесіі хто?**

**Саша:** Мы розныя прафесіі спрабавалі, а зараз беспрацоўныя. Выгналі ж з тэлебачання, а так былі тэлезоркамі.

**– Сапраўды, ёсць неадназначнае стаўленне да мовы, на якой вы гаворыце, яна і не руская і не беларуская ...**

**Саша:** Вы паглядзіце, хто яшчэ так гаворыць - народ. Слугі народа так размаўляюць.

**Сірожа:** Мы кажам на той мове, на якой прывыклі размаўляць, якой карыстаецца большасць нашых людзей.

**Саша:** А яшчэ гэта выгадна таму, што калі мы аб'яднаемся з Расіяй, то будзем як замежнікі. Быццам у нас такі акцэнт. Як літоўцы, яны ж нармальна кажуць паруску, але з акцэнтам.

**Сірожа:** На такой мове гаворыць большасць насельніцтва нашай краіны.

**Саша:** У мяне суседзі ўсе так размаўляюць. Але мы за модай не гонімся.

**Сірожа:** Нам на тэлебачанні казалі, што мы ўводзім моду на некаторыя словы. Напрыклад, «калдыры», ці «чмошнікі». На самай справе ўсе гэтыя словы былі, проста ніхто на іх не звяртаў увагу. Нам наадварот не зразумела, калі ў мову ўстаўляюць розныя англійскія словы. Што ў нас сваіх няма, ці што? А ім ніхто не кажа, што яны мову паганяць.

**– Вы гэтыя свае словы аднекуль бераце ці проста прыдумваеце?**

**Саша:** Дык калі паехаць у Серабранку ці ў Чыжоўку, ці ў Шабаны, там наслухаешся. Асабліва, калі схадзіць у начную краму.

**– Кажуць, што ваш дуэт узнік яшчэ ў вашыя студэнцкія часы, калі вы вучыліся ва універсітэце... Ці сапраўды гэта так?**

**Саша:** Мы ва універсітэтах не вучыліся. Мы ПТУ скончылі, пасля ад арміі касілі ў Навінках, ва універсітэт нас не пусцілі, не прайшлі мы.

**Сірожа:** Нават дакументы не падавалі.

**Саша:** А дуэт нарадзіўся так: я нарадзіўся ў адной сям'і, а Сяргейка – у другой.

**Сірожа:** У школе пазнаёміліся. Нас разам на прышчэпкі вазілі. Пасля запрасілі на тэлебачанне, на радыё, паспяваць там, выступіць і г.д.

**— На гастролі запрашаюць?**

**Сірожа:** Завуць і ў Магілёў, і ў Гомель, і ў Брэст, клічуць адусюль.



**Саша:** Часу няма, гаспадарку трэба трымаць. Усюды запрашаюць, дзе ёсць магчымасць выступаць перад простымі людзмі. Але мы пакуль яшчэ са сцэны саромеемся.

**– А дзяўчаты лісты пішуць?**

**Саша:** Не. Не вельмі мы ім, відаць, падабаемся.

**– Праграма называлася «Дастань зорку». Каго з зорак вам больш падабалася «даставаць»?**

**Сірожа:** Мы любім рускую папсу, і беларускую таксама.

**Саша:** А то гэтыя замежныя пра што пяюць, незразумела.

**Сірожа:** Напачатку праграма павінна была называцца «Лясы», ад выразу «тачыць лясы». Але такую назву на БТ не прапусцілі, сказалі, што занадта «вульгарная». А «Дастань зорку» – гэта самі бэтэшнікі прыдумалі. Наконт групаў, Сашы, напрыклад, падабаюцца «Сябры».

**Саша:** Мне Дарафеева падабаецца, а Афанасьева не падабаецца, у яе вочы хітрыя. А ў Дарафеевай — як васілёчкі.

**Сірожа:** Яшчэ падабаецца Аляксандар Рыгоравіч...

**Саша:** Ціхановіч.

**– Вы казалі, што запісваеце свой музычны альбом. Якія песні там будуць?**

**Сірожа:** Будуць пра каханне: «Ты любовь, любовь, сердце к ней гатовь».

**Саша:** Ёсць сацыяльныя, калыханка, напрыклад.

**– Адкуль узяліся ўсе гэтыя гісторыі, якія вы распавядаеце?**

**Сірожа:** У асноўным гісторыі звязаныя з калецтвамі.

**Саша:** Ну мы яшчэ страшныя гісторыі ведаем. Дарэчы, калі нас выгналі з БТ, нас чамусьці пачалі называць апазіцыяй.

**Сірожа:** Мы хочам сказаць, што многія людзі ўцягваюць нас у палітыку. Мы гэтага не хочам.

**– Але ж зараз размаўляць па-беларуску - гэта ўжо палітыка. І калі да таго ж аднаго з вас завуць Саша...**

**Сірожа:** Гэта яго мама вінаватая.

**Саша:** Яна тады яшчэ не ведала, хто ў нас будзе прэзідэнтам.

**Сірожа:** Гэта няпраўда, што ўсіх, каго з БТ выганяюць, адразу становяцца апазіцыяй. Нам палітыка не цікавая. Мы пакуль яшчэ не такія разумныя.

**– Дзе вашым прыхільнікам чакаць вашага з'яўлення?**

**Сірожа:** Мы з'явімся, хутка будзе перадача. Кажуць, што намі цікавяцца і ў Расіі, і ва Украіне. Так, што нашыя прыхільнікі сумаваць не будуць.

**Саша:** А калі і засумуюць, дык мы для іх у інтэрнэце што-небудзь зробім.

Пра меркаванні наконт новага беларускага гумару ў размове «на сур'ёзнай ноце» з намі падзяліўся **знаны грамадскі дзеяч і мовазнаўца Вінцук Вячорка**.

**– Чым, на вашу думку, можна патлумачыць папулярнасць «Сашы і Сірожы»?**

– Мы доўгі час выхоўваліся ў расейска-савецкай традыцыі гумару, якая адрозніваецца ад беларускай. Нашаму нацыянальнаму характару адпавядае больш добры, добразычлівы гумар. Нам не ўласціваe ўзвышэнне сатырыка-гумарыста над аўдыторыяй — тое, чым займаюцца многія сатырыкі, якія выступаюць зараз па расейскіх каналах. Яны здзекуюцца з аўдыторыі, кпяць з яе, прыніжаюць. І на жаль, людзі гэта не заўсёды разумеюць.

У «Сашы і Сірожы» вельмі трапна знойдзеная форма, і насамрэч закладзены вельмі глыбокі змест. Яны кранаюць і агульнафіласофскія пытанні, і палітычныя. Але робяць гэта настолькі ўмела, таленавіта і далікатна, апранаючы свае меркаванні то ў форму ўскосных цытатаў з беларускіх казак, то анекдотаў, то цытатаў з нейкіх папулярных фільмаў, песняў ці спектакляў. За што ж можна гэтых бяскрыўдных хлапцоў цкаваць?

**– Яны ў гэтым як і ўсе беларусы...**

– Менавіта таму яны і папулярныя. Кожны бачыць, што хлопцы таксама ўсё разумеюць, але прыкідваюцца такімі прасцячкамі.

**– Вам асабіста падабаецца «Саша і Сірожа»?**

– Я па-чалавечы люблю ўсе іхнія праграмы, маю іх касеты. Адзінае, што пры нагодзе я б ахвотна з імі папрацаваў як мовазнаўца. Наконт «калдыроў» я лічу, што гэты сюжэт адзін з самых бліскучых. Ён высмейвае чужую нам з'яву неакультуры, такі крымінальна-прыніжаны элемент сучаснага асяроддзя. І тое, як бліскуча яны гэта высмялі, ужыўшы вядомыя жаргонныя словы, думаю, гэта самае трапнае, што толькі можна было зрабіць. Дзякуючы ім у значнай ступені «калдыр» стаў прадметам усеагульных насмешак.

**– Былі меркаванні, што гэта дастаткова вульгарна ...**

– Значна больш вульгарнай з'яўляецца любая прапагандысцкая перадача на тэлебачанні пасля навінаў. У «Сашы і Сірожы» няма цінізму і ўсё даволі далікатна.

**– Што вы маглі б сказаць наконт мовы, якой яны карыстаюцца?**

– Іх мова – гэта сённяшняя наша моўная праблема ў яе рэальным бытаванні. Яны яе адлюстроўваюць. Я перакананы, што гэта адбітак жывой моўнай сітуацыі, у якой расейская мова зусім не пануе. Таму гэта рэальны крок да беларусізацыі моўнай прасторы вакол нас. Думаю, ва ўсіх аспектах перад намі вельмі пазітыўны феномен. Аднаўленне беларускай нацыянальнай традыцыі гумару праз выкарыстанне сучаснай мовы і медыяў.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# ДОЎГІЯ ГОСЦІ

## *Легальныя і нелегальныя бежанцы на Беларусі*

Кожны раз на прызначаных сустрэчах з бежанцамі я здзіўлялася, калі прыходзілі добра апранутыя, інтэлігентныя, адукаваныя (некаторыя мелі па дзве вышэйшыя адукацыі) і выдатна арыентаваныя ў нашым сённяшнім дні людзі.

Размова пра іх жыццё на Беларусі зводзілася найчасцей да размовы пра перашкоды і праблемы. Але і было б дзіўна, каб праблем і перашкодаў не было. Яны ёсць ва ўсіх краінах для ўсіх мігрантаў, і таму сутнасць справы палягае ў іх колькасці і характары.

### Афіцыйна прызнаныя

Дакладную колькасць вымушаных мігрантаў вызначыць вельмі складана. Іх на Беларусі, паводле дадзеных Упраўлення па справах бежанцаў Дэпартамента па міграцыі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь, дзесяткі тысяч. Калі не сотні, прынамсі, так сцвярджае другая крыніца, што пажадала застацца невядомай. Усяго ж па статус бежанца ў міграцыйныя службы дзяржавы звярнулася крыху больш за 2500 чалавек. Тых, што атрымалі яго, уключаючы непаўналетніх дзяцей, – 701 чалавек. Каля сотні чалавек падалі хадайніцтвы. Астатнія дзесяткі тысяч – нелегалы. Адны з нелегалаў (меншая частка) жадаюць застацца на Беларусі, іншыя – транзітам яе перасекчы ў пошуках лепшай долі на Захадзе. На пытанне, чаму ў нас так шмат мігрантаў, якія хаваюцца ад праваахоўных органаў і міжнародных арганізацый, мне патлумачылі іх калегі па няшчасці, што ўжо атрымалі статус. Умоўна ўсіх нелегалаў можна падзяліць на тры катэгорыі. Першая амаль нічога не ведае пра сістэму абароны бежанцаў у свеце. Другая не жадае «выходзіць з ценю» з-за доўгіх тэрмінаў (бывае да года) разгляду дакументаў нашымі міграцыйнымі службамі і той няўпэўненасці, якая суправаджае ўвесь перыяд да атрымання ці не атрымання статуса. А статус бежанца – гэта не толькі гарантыя тры гады (потым тэрмін працягваюць) жыцця тут, – гэта і мінімум раз на год сустрэча з праваахоўнымі органамі, і самастойнае набыццё прапіскі, і падаткі з заробкаў. Трэцяя (самая вялікая) не ідзе рэгістравацца з-за боязі быць высланай з Беларусі, такой мірнай і стабільнай, на іх думку.

Згодна з нашым законам, «бежанцам лічыцца асоба, якая не з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь і знаходзіцца на яе тэрыторыі з прычыны цалкам абгрунтаванай асцярогі стаць ахвярай праследаванняў у дзяржаве сваёй грамадзянскай прыналежнасці па прыкмеце расы, рэлігіі, грамадзянства, нацыянальнасці, прыналежнасці да пэўнай сацыяльнай групы або палітычных перакананняў і якая не можа ці не жадае з-за такой асцярогі карыстацца абаронай дзяржавы сваёй грамадзянскай прыналежнасці ці свайго ранейшага звычайнага месца жыхарства». Але даказаць, што менавіта табе і тваёй сям'і пагражалі вышэй пералічаныя абставіны, вельмі складана.

### З гісторыі

Першыя бежанцы з'явіліся ў нас у 1982 годзе. Гэта былі 250 вымушаных мігрантаў з Ірана, якія ратаваліся ад рэжыму аяталы Хамейні. Тады кіраўніцтва БССР выдзеліла для іх новы 12-павярховы дом, арганізавала курсы рускай мовы, дапамагло атрымаць прафесію, два гады плаціла грошы. Калі ж у іранцаў з'явілася магчымасць падасца на Захад, з'ехала большая палова. Каля 80 чалавек (многія з іх скончылі нашы ВНУ, ажаніліся тут) назаўсёды звязалі свой лёс з Беларуссю.



На 1992–93 прыпадала хваля бежанцаў, з Афганістана і Грузіі. Пасля падзення кіраўніцтва Наджыбулы і вываду савецкага войска з Афганістана, а таксама грузіна-абхазскага канфлікту, з улікам міграцыі, на Беларусі з'явілася не менш за 100–150 тысяч бежанцаў на год (амаль усе кіраваліся ў заходнія краіны). У наступныя гады лік бежанцаў з гэтых краін зменшыўся, але не спыніўся. А з тых, што сёння бежанцы ў статусе (701 чалавек), – 511 афганцаў і 91 грузін.

Да гэтай хвалі адносяць і былых студэнтаў з Афганістана і Афрыкі (Эфіопіі, Ліберыі, Руанды), якія пачынаючы з 1980 года прыязджалі на Беларусь вучыцца па лініі міждзяржаўных сувязей. 1990-я гады ў цэлым шэрагу афрыканскіх краін адзначаны крывавымі пераваротамі і грамадзянскімі войнамі, у якіх, у першую чаргу, гінулі тыя, хто хоць нейкім чынам быў звязаны з камуністычнай партыяй. Тыя хлопцы, што, атрымаўшы адукацыю, рызыкнулі вярнуцца на радзіму, загінулі ці прапалі без звестак. Тыя, што засталіся на Беларусі, сталі «бежанцамі на месцы», Эфіопія – 23, Руанда – 1, Ліберыя – 1.

І зусім не спрэчнае пытанне, ці можна лічыць трэцяй хваляй напаўлегальныя прасочванні жыхароў Азербайджана і Таджыкістана (27 і 28 чалавек адпаведна ўжо ў статусе) на Беларусь апошнімі гадамі. Лічыцца, што гэтая хваля найменш інфармаваная і не такая «граматная». Але, як і «першапраходцаў», іх вабіць Захад. Не рэдка без грошай на тэрыторыі Беларусі «транзітчыкаў» кідаюць «праваднікі». А некаторыя, узрадаваныя мірным небам, вырашаюць не шукаць дабра ад дабра і застаюцца. Але тут якраз і пачынаюцца праблемы ўжо мірнага жыцця, якія дапамагчы вырашыць «гасцям» мы можам не заўсёды. Уладныя структуры яшчэ маюць стварыць нармальны Закон «Аб бежанцах».

### Міжнародныя стандарты

Пачатак працы па стварэнню дзяржаўнай міграцыйнай службы прыпадае на 1992 год. У гэтым годзе занялiся і Законам «Аб бежанцах». Роўна праз тры гады яго прынялі. І ў 1998 годзе ён пачаў працаваць на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Праз год Закон запатрабаваў 2-й рэдакцыі. Не так даўно, 18 ліпеня 2003 года, уступіла ў дзеянне 3-я рэдакцыя. Яе «падганялі» да галоўнага ў свеце дакумента аб бежанцах роўна два гады, з моманту далучэння Беларусі да Міжнароднай Канвенцыі 1951 года і Пратакола да яе 1967. Беларусь стала 143-ім яе ўдзельнікам. Вось што сказаў з гэтай нагоды Рууд Луберс, Вярхоўны камісар па справах бежанцаў ААН: «...мы адзначылі, што Беларусь змагла, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, сфарміраваць заканадаўчыя і адміністрацыйныя асновы, неабходныя для функцыянавання нацыянальнай сістэмы прадастаўлення прытулку і стварыць працэдуру вызначэння статуса бежанца ў параўнальна кароткі перыяд часу...» Беларускі Закон «Аб бежанцах» – сёння лепшы на ўсёй тэрыторыі былога СССР. Але пляскаць у далоні пакуль рана: адна справа – закон стварыць, маючы пры гэтым узор перад вачыма, другая – заставіць яго дзейнічаць без хібаў, якія, на жаль, таксама маюцца.

Закон і добрае слова – усё, што мы можам прапанаваць тым, хто страціў радзіму. Канешне, гэта зусім мала ў параўнанні з тым, што прапаноўвае Захад. Але «нашы» бежанцы ўдзячныя за грашовыя дапамогі, якія, калі ўсе разам скласці, складаюць 165 тысяч (або 10 базавых велічынь). І гэта не на месяц, па закону да шасці месяцаў (пакуль разглядаецца хадайніцтва), на практыцы ж да года. Усім,бежанцам у статусе і без яго выплочваецца дапамога на дзяцей. На 2003 год з дзяржаўнага бюджэту бежанцам выдзелілі 16 мільёнаў рублёў (меней за 8.000 даляраў.). Для параўнання, у 2000 годзе праз УВКБ ААН і Міжнародны Чырвоны Крыж на ўсе віды дапамогі было выдаткавана 665.000 даляраў. Нездарма адказам на пытанне «У якую арганізацыю ці ўстанову Вы звернецеся па дапамогу ў першую чаргу» гучалі назвы арганізацый: УВКБ ААН, Чырвоны Крыж, ГА «Фонд незалежнай сацыяльнай дапамогі».

### УВКБ ААН

УВКБ ААН пачала сваю дзейнасць у 1950 годзе. Яе мэтай было дапамагчы ахвярам Другой сусветнай вайны. Чакалася, што трох гадоў будзе дастаткова, каб рашыць праблему бежанцаў у свеце. Аднак прайшло паўстагоддзя, а праблема, як і раней, у спісе самых актуальных. Сёння УВКБ ААН мае свае прадстаўніцтвы ў 120 краінах свету, а з 1995 года – на Беларусі.

За восем гадоў пры непасрэдным удзеле УВКБ ААН у Мінску для бежанцаў і беларусаў адкрыты медыка-сацыяльны цэнтр Чырвонага Крыжа, у Віцебску-цэнтр па размяшчэнні асобаў, якія просяць прытулку. На грошы арганізацыі кожнае лета цэнтр дзіцячай і юнацкай творчасці «Эўрыка» праводзіць інтэграцыйны беларуска-афганска-грузінскі летнік «Рабінзанада».

Асноўная задача як дзяржаўных структураў, так і грамадскіх арганізацый – стварыць добрыя ўмовы для інтэграцыі бежанцаў у наша грамадства. А значыць, праз спецыяльныя мерапрыемствы даць гэтым людзям адчуць сябе паўнацэннымі членамі грамадства. Але, як кажуць самі бежанцы, нішто іх так не стымулюе да гэтай самай інтэграцыі (вывучэння мовы, заканадаўства, культурных нормаў грамадства), як шматлікія праблемы выжывання ў ім. І тут не мае значэння, якія ўмовы жыцця і які статус мелі гэтыя людзі ў сябе на радзіме. У нас яны трапілі ў аднолькавыя стартавыя ўмовы, атрымалі роўны з усімі мех праблемаў.

**Алеся МАТУСЕВІЧ**

## Выхаванне

# Крызіс мацярынскага інстынкту

Што адбываецца з мацярынскім інстынктам, які сотні тысяч гадоў забяспечваў выжыванне чалавецтва? Чаму сёння ён саслабеў? Аб гэтым доктар медыцынскіх навук Галіна Казлоўская гутарыць з журналісткай Таццянай Баценевай.

**– Мацярынская любоў, мацярынская самаадданасць – у іхнай падставе ляжаць чыста біялагічныя механізмы?**

– Гэтак можна гаварыць толькі аб жывёльным свеце, дзе адносіны «маці – дзіця» строга рэгламентаваны, прадуцыруюцца на ўзроўні генетычных праграмаў. Але калі і ў жывёл адняць нашчадкаў ад бацькоў і змясціць у штучна створаныя ўмовы, яны вырастаюць непаўнацэннымі: не ўмеюць паводзіць сябе са сваім патомствам, не ўмеюць жыць у зграі, ва ўмовах прыроды. Гэта гаворыць, што паводзіны і ў жывёл фарміруюцца навучаннем, хоць яго генетычная аснова запраграмавана. Тым болей такое навучанне дзейнічае у людзей. Мацярынства – не толькі біялагічная, але і сацыяльная функцыя, яго цэннасць вызначаецца грамадствам.

**– І ў апошнія гады гэтая функцыя жанчыны, на вашу думку, перажывае крызіс?**

– Ніякага сумневу, і гэты крызіс мае сацыяльную якасць. Паглядзіце ў жывёлаў: ніколі жывёліна не абдзяляе сваё дзіця ў такіх жыццёва важных рэчах, як ежа, магчымасць сагрэцца, ўратавацца пад абарону бацькоў. Ніякай жорсткасці, агрэсіі, зла ў адносінах да дзяцей – гэта ўласціва толькі для чалавека. Сёння колькасць агрэсіі ў адносінах да дзяцей такая, што можна ўпэўнена сказаць: грамадства перажывае крытычны перыяд, яго будучыня пад пагрозай.

**– Якія жанчыны прымалі ўдзел у вашым даследаванні гэтай тэмы?**

– Мы абследавалі 85 жанчын – з перыяду цяжарнасці ці першых месяцаў жыцця дзіцяці да дасягнення ім узросту 4 гадоў. Сярэдні ўзрост маці – 26 гадоў. У выніку былі высветлены чатыры тыпы мацярынскіх паводзінаў. Маці, якая любіць дзіця (мы назвалі такі тып паводзінаў - надзейная), заўсёды абыходзіцца з дзіцем спакойна, добразычліва, прыстасоўвае сваё жыццё да патрэбаў дзіцяці, канцэнтруецца на ім цалкам, разумеючы яго патрэбы. Яна стварае ў немаўляці пачуццё бяспекі, даверу да людзей і свету, адчуванне, што яго любяць. Трывожная маці напоўнена гіпертрафіраваным пачуццём адказнасці, зафіксавана на фізічным здароўі дзіцяці на шкоду псіхічнаму, абмяжоўвае яго кантакты з навакольным светам. Трэці тып паводзінаў – дэпрывацыя (адмова, пазбаўленне). Маці свядома адмаўляе дзіцяці ў сваёй увазе, ні за што не возьме яго на рукі, хоць ты зравіся. Нарэшце, чацвёрты тып – маці, якая ўхіляецца ад выхавання цалкам ці часткова. Як правіла, такое дзіця даглядае бабуля ці нянька.

**– І як адказвае на такія паводзіны дзіця?**

– Адэкватна. Вось маці вельмі акуратная, педантычная, шмат сілаў аддае на грамадскую працу, альтруістка. А дзіця істэрыкуе, валіцца на падлогу, кідаецца на яе з кулачкамі. Гэта таму, што гэта адзінае, чым яно можа адказаць на яе дэспатызм. Істэрыка – самая простая рэакцыя, самая эканомная, яна прымушае звярнуць на цябе ўвагу. У дзіцяці фарміруецца істэраформныя паводзіны. Ці дзіця ссе пялёнку, палец, нерухома ляжыць у позе раскрыжаванага Хрыста. Ці, наадварот, раскачваецца, б'ецца галоўкай аб ложак, тузгае сябе за валасы. Усё гэта таму, што маці няма да яго справы, яна занятая – друкуе, гатуе, п'е каву. І нават калі яно плача, маці не звяртае ўвагі – нічога, паплача і перастане... Недахоп любові фарміруе адчужэнне, якое выявіць сябе пазней. Болей за тое, такім дзецям часта ставяць дыягназ «радавая траўма», хоць на справе яе няма. Проста дзіця не атрымоўвае цяпла і пяшчоты, і таму ўзнікае затрымка псіхафізічнага развіцця...

**– А лішак увагі – няўжо і гэта блага?**

– Прыходзіць да нас усхваляваная маці, скардзіцца: «Я так люблю яго, а ён мяне шчыпле, драпае». А справа ў тым, што яна не спускае дзіця з рук, а яму патрэбна свабода. Яно намагаецца адդзяліцца, драпае, але не адчувае, дзе яно само, а дзе маці, яна яму на гэты момант проста наскучыла.

**– Што ж адбываецца з жанчынамі, чаму раптам большыня з нас развучылася рабіць тое, што ўскладзена на жанчыну самой прыродай?**

– Цяперашняе пакаленне маці – гэта ў асноўным дочкі жанчын, якія працавалі. Яны выхоўваліся ў дзіцячых установах. Яны не навучыліся ад сваіх маці быць мамамі, не атрымалі таго самага перыяду навучання мацярынскім паводзінам, тых навыкаў, пра якія мы казалі ў пачатку. Вядома, напрыклад, што дзяўчынкі – выхаванкі дзіцячых дамоў, інтэрнатаў, прытулкаў – не хочуць і не ўмеюць быць жонкамі і маці, часта таксама пакідаюць сваіх дзяцей пасля нараджэння.

**– Ці будзе дзіця любіць маці, якая дазваляла сабе такія жорсткія памылкі?**

– Маленькае дзіця часцей за ўсё вельмі добразычлівае, схільнае да кампрамісу, схільнае дараваць. Адзінае, чаго дзеці не даруюць, – гэта фізічнае насілле. Спачатку дзіця плача, у яго развіваецца дэпрэсія, але потым яно шукае магчымасці адказаць на насілле. Яно зварочвае агрэсію на цацкі, на аднагодкаў, але прыходзіць час, калі яно пачынае помсціць крыўдзіцелю, і помсціць жорстка.

**– Ці можа маці выправіць свае памылкі?**

– Для гэтага нехта павінен навучыць яе любіць сваё дзіця.

**Тацццяна БАЦЕНЕВА**

# Крывіцкія Руны

**Выдавецтва «Беларускі кнігазбор» выдала Кнігу «Крывіцкія руны. Беларускія пісьменнікі Латвіі». Уклаў яе і напісаў ёмістую прадмову знаны паэт Сяргей Панізнік. Кніга выяўляе мацярык беларускай духоўнасці ў Латвіі, створаны мастацкім словам за апошнія 80 гадоў. «Крывіцкія руны» – пачуты водгалас крэўнага латышска-беларускага сваяцтва. У кнізе прадстаўлена творчасць болей чым дваццаці аўтараў – паэтаў і празаікаў. Гэтая публікацыя знаёміць з некаторымі аўтарамі зборніка.**




## Эдвард ВАЙВАДЗІШ

### Прыдруйшчына

З Табой заўсёды ў згодзе
І мой быў лёс:
Пры ўсякай непагодзе
Цягнулі воз.

Баліць душа і сэрца
За многіх з нас,
Каму ў волю перцу
Паддаў калгас,

Калі жыцьця аснову
І сэнс вякоў
Мянялі... Зь імі й мову
Сваіх бацькоў.

Пакутую душэўна:
Боль не забыў...
Хачу спытацца гнеўна:
А гонар быў?

Згубіў ты мову матчыну -
Калыскі сьпеў.
Каму прадаў ты спадчыну,
Што ў сэрцы меў?

Напэўна, пакаленьні,
Што ўжо ідуць,
Падымуць нас з каленяў...
І праклянуць.

## Вера ВАЙЦЮЛЕВІЧ

*Яну Райнісу*

Быў адзіны вялікі паэт
З добрай, шчырай душою і чыстай.
Ў нашым цёмным жыцці - як прасвет,
Як вадар на дарозе цярністай.

Ён для нас працаваў дні і ночы
І заранку нёс сам з аблачын,
Аж пакуль не самкнуў свае вочы,
Адышоў на свой вечны спачын.

Быў ён бацькам для нас, быў ён братам,
Калі з цемры выводзіў глухой.
Быў бязмежным для ўсіх дэмакратам,
Разбудзіў нас гадзінай ліхой.

Разбудзіў у нашых сэрцах каханне,
Якім трэба кахаць свой народ.
Разбудзіў у нас сілу змагання.
Першы крок сам ступіў напярод.

Разбудзіў нашы спячыя душы
І стаючую кроў узбурліў,
Зацвярдзелыя сэрцы ўзрушыў,
Розум светлаю думкай наліў.

Калі жыў - мы не ведалі гора:
Галавой быў у нашае справе.
І не страшыла цёмнае мора...
Мы пры ім былі ў чэсці і славе.

А цяпер усіх нас ён пакінуў
І ніколі ўжо не адгукнецца.
У няведамую краіну
Адляцела спагаднае сэрца.

Жыцця горкага знікла ўслада,
Сонца яснага згасла праменне.
Засталася адна толькі радасць -
Не памеркла паэта іменне.

## Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

Няйначай я з такога цеста:
Ўва мне ёсць месца для пратэсту,
Што поўніць прагай да жыцця
І мне ўтрымацца памагае,
Калі зямелька пад нагамі
Плыве, -
Трымаць свой крыж, свой сцяг.

Інакш у белым, як нявеста,
Знайшла б мне смерць пад сонцам месца.

А так ізноў яе каса
Найшла на каменьчык пратэсту!
І ўсміхаецца нявестай
Любоў - да пояса каса...

Цябе я зноўку прыручыў,
Да сэрца - сэрца прылучыў.
І вось у восеньскай начы
Спіш у мяне ты на плячы.

Ў акне, вітаючы зару,
Каханнем я к табе гару,
Заклён-замову гавару,
Каб не адбілася ад рук...

## Віктар ВАЛЬТАР

### Дух часу

Нехта няведамы ходзіць,
Вось не злавіць, не забіць.
Думкі аб новай свабодзе
Стаў ён людзём гаварыць.

Што яму войска, што межы,
Што тыя варты прад ім?
Ён жа, як дым, без адзежы,
Ён жа хутчэйшы за дым...

Зьляцца на варце, як зьверы,
Мсьцяць ўсё людзём - не яму,
І праз зялезныя дзьверы
Гоняць нявінных у турму.

Дух жа ўсё ходзе ды ходзе!
Не - яго ў век не злавіць...
Нехта аб новай свабодзе
Ў вёсках пачаў гаварыць...

## Пятро САКОЛ

### Люцынскі замак

На крутым берагу адзінокі
Стары замак даўно ўжо стаіць.
Ён над возерам грозна падняўся
І навокал так сумна глядзіць.

Вараньнё на ім гнёзды павіла,
Між каменьняў трава ўжо расьце...
Чорным мохам пакрыліся сьцены,
Груда цэглаў у цёмным куце.

У ягоных нагах ляжыць горад,
Як у бацькі сынок на каленях.
Вокны горада зьзяюць агнём
На вячэрняга сонца праменьнях.

Калі ж выгляне месяц з-за хмар,
Калі горад патроху засьне,
Стары замак, як волат, стаіць,
Зачараваны ў жудасным сьне.

## Мікола ТАЛЕРКА

Веру ў святое збаўленьне:
Мне ідэал прыгадаў
Сьвету ўсяго абнаўленьне,
Чыстасьць таго, што стаптаў.

Гонар, сумленьне - стаптаны.
Вера змарнела за век.
У панаваньне тырана
Бога забыў чалавек.

Людзкасьць забыта, а сэрца
Юдавай поўна крыві.
Хлусу адчынены дзьверцы...
Вось тут папраўдзе жыві!

Праўда марнее у лганьні,
Топіцца ў мутнай вадзе.
А за яе у змаганьні
Кончыш свой век у бядзе.

Пошасьць хай гэта мінае.
Хай бы і дзіўнасьці быць!
...Нашая доля такая:
Веру і гонар здабыць.

## Андрэй ГУЦАЎ

### Маленне Крывіцкага князя

Дапамажы мне, Святая Марыя!
Заўтра з дружынай ісці ў паход.
І цемру разглядваюць вочы сляпыя -
Ведаю: гэта апошні мой год.

Раніца высвеціць шэрыя стрэхі,
Быццам абвесціць прышэсце Суда.
Хай жа спакойнымі птушкі і рэкі
Будуць уночы, як Дуб у гадах.

Хай жа забудуцца мужныя воі
Сном адпачынку ад золкага дня.
Дапамажы мне, сваёю рукою
Нас блаславі ўсіх, пакуль цішыня.

Дапамажы мне, Святая Марыя!
Ведаю: смерці ў славянаў няма.
Сінія хвалі ў Прашчураў Вырай
Як пераможцаў адкрый праз туман...

## Эмілія КАЗАК-КАЗАКЕВІЧ

### З фальклору латгальскіх беларусаў

*(Прыказкі, прымаўкі, прыгаданыя Эміліяй Казак-Казакевіч)*

Не крыві душой: крывабокі на той свет пойдзеш.
Прымацкі – хлеб сабацкі.
Багатаму і чорт у кашу масла падкладзе, а беднаму і ў поліўку вады падліе.
Мужык, як авечка: яе абстрыгуць, а яна зноў абрастае.
Свая печка цяплей за чужое сонца.
Не спіцца, бо хлеб сніцца.
Хоць чорная папа (хлеб), але поўная лапа.
Хто хлеб носіць, той есці не просіць.
Ніхто не ведае, як хто абедае.
У родным краю, як у раю.
Лепш хлеб з вадой, чым пірог з бядой.
Ці сто коп, ці адзін сноп – на год хлеба.
Не руш чужога, не бойся нікога.
Грэх у мех і сам наверх.
Кінь прад сабой – знойдзеш за сабой.
У паноў прасіць, што па смерць хадзіць.
Панскія медалі хлеба не далі.
Пан шукае сабе прыбылі, а другому – гібелі.
Хто пытае, той не блудзіць.
Вочы страшаць, а рукі зробяць.
Хоць ох, але ўдвох.
Начная кукушка (жонка) заўсёды перакукуе.
Лепш утапіцца, чым з нялюбай ажаніцца.
Рука руку мые – абедзве белыя.
Каб не ежка, не адзежка, дык была б грошай дзежка.
У кожнай хаце свая печ.
Ранняя птушка зубкі цярэбіць, а позняя вочкі трэ.
Не гані Бога ў лес, калі ён у хату ўлез.
Пацеры не звяры - у лес не ўцякуць.
І сава сваіх дзяцей хваліць.
Хоць жонка сучка, затое грошай кучка.
І жонка – туча, і грошы – куча.
Не той свет, што ў вакне блішчыць.
На ласы кусочак знойдзецца куточак.
На языку мядок, а на сэрцы лядок.
Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы.
Сей авёс у гразь – будзеш князь.
Пустая каша сям'і не разганяе.
Чые б бычкі ні скакалі, а цялушачкі – нашы!
Вачамі – еціць, а сэрцам – шыпіць.
Скоры паспех людзям на смех.
У кулаку ўсе пальцы роўныя.
Грошай ні граша, а слава хараша.
Шуба авечая, а душа чалавечая.
Ляцела, як анёл, а села, як чорт.
Слёзы пажар не патушаць.
Язык вастрэйшы за іголку.
Чаго хочаш, таму й верыш.
Яму гаварыць – што аб сценку гарох малаціць.
Ад злосці агонь з вачэй і дым з вушэй.
Па ім і ў ступе таўкачом не пападзеш.
Не вер жонцы ў полі, а каню ў дарозе.
Пакуль сын лапці схваціў, бацька і змалаціў.
Як ні вярці, ні круці – а трэба памярці.
Пайшла раха (неахайніца) жыта жаць, забылася серп узяць.
Серп ляжыць на паліцы, а раха ходзіць без спадніцы.
Крыўдна да болі, калі жыта гніе на полі.
За добрую плату служаць і кату.
У скупога заўсёды – па абедзе.
Гразь не сала: памыў – і адстала.
Бедны памрэць – ніхто не памянець, а багатага ўся ваколіца помніць.
За добрае – злым заплата.
Праўда, як масла: наверх усплывае.
З чужога каня і сярод гразі злазь.
Вялікі пень, ды дурань; малы залатнік, ды дарагі.
Хто краў, хто праў, а невінаватага вешаць вядуць.
Якія сані, такія і самі.
Лепш у хаце цапом бухаць, чым салдацкіх куль слухаць.
Не крычала варона, калі ўверх ляцела, а калі ўніз падала.
Не кайся, рана ўстаўшы, а маладым ажаніўшыся.

# Коні вараныя народнай песні

**Да юбілею беларускага этнамузыколага Зінаіды Мажэйкі**

«Запрагайце, хлопцы, коні, коні вараныя, даганяйце мае годы, годы маладыя...», «Ой, вецер вее, вее да павявае, шаўкова трава ды на касу налягае...» Адразу ж у гэтых словах, у гэтых цудоўных спевах чуецца душа беларускага народа. Даследчыца беларускай народнай песенна-музычнай культуры Зінаіда Мажэйка лічыць, што ў мелодыях і словах песень увасоблены гукаідэал народа, бо музычная мова народа – яго інтанацыйны эталон.

На Беларусі захаваліся самыя старажытныя ў Еўропе пласты унікальнай народнай музычнай культуры, якія ў Еўропе найчасцей існуюць не ў жывым бытаванні, а як рарытэты – у запісах, у музейных экспанатах. Вось чаму Беларусь так прываблівае і навукоўцаў, і замежных турыстаў магчымасцю пачуць народныя песні ў жывым асяроддзі – не на сцэне ў адаптавана-канцэртнай форме. Тут ёсць арэал аўтэнтычнага фальклору: людзі спяваюць для сябе, на вольным паветры ці ў доме, атрымліваюць асалоду ўсе разам – бо не падзяляюцца на выканаўцаў і слухачоў. Дакладней, яны існуюць у адной эмацыянальнай прасторы. Але ёсць і выдатныя народныя спевакі – іх называюць «карыфеі». Этнамузыколаг Зінаіда Мажэйка як навуковец выдзяляе такіх таленавітых народных самародкаў, доўгія гады ў палявых назіраннях вывучае іх, удзельнічае як сцэнарыст у здымках фільмаў аб'яднання «Летапіс» Нацыянальнай дзяржаўнай кінастудыі «Беларусьфільм».

Сапраўды, Зінаіда Мажэйка – сама унікальны самародак, бо прырода ёй дала незвычайны музычны «слых на музычныя таленты». Яна шчыра захапляецца непаўторнасцю і багаццем мелодыкі і інтанацый народных майстроў галасных спеваў. Гэтая яе эмацыянальнасць знаходзіць водгук і ў спевакоў-карыфеяў, якіх яна як дасведчаны навуковец-этнамузыколаг знайшла, палюбіла і доўгія гады запісвае і вывучае. Так былі створаны фільмы, якія ўвайшлі ў вельмі каштоўны аўтарскі цыкл дакументальных стужак: «Палескія калядкі» (1972, рэжысёр Н.Сава), «Памяць стагоддзяў» (1982, рэжысёр Н.Сава), «Палескія вяселлі» (1986, рэжысёр Ю.Лысятаў), «Пранясі, Божа, хмару» (1990, рэжысёр А.Шклярэўскі), «Крывыя вечары» (1993, рэжысёр Ю.Лысятаў), «Рух зямлі» (1999, рэжысёр С.Гайдук). Гэтыя фільмы спалучылі народнае мастацтва, фалькларыстыку і народазнаўства – этналогію. Фільмы былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі (1995).

Цыкл фільмаў атрымаў мноства міжнародных прызоў. У іх ліку – на I і IV Міжнародных фестывалях аўдыёвізуальнай культуры ў Пярну (Эстонія, 1987 і 1991); на Міжнародным аглядзе экалагічных, спартыўных і турыстычных фільмаў у Златіборы (Югаславія, 1993); на I Міжнародным кінафестывалі славянскіх і праваслаўных фільмаў у Югаславіі; на X Міжнародным фестывалі этналагічнага фільма ў Югаславіі (2001). Карціны цыкла ўключаны ў вучэбна-культурную праграму Калумбійскага універсітэта. У ЗША прафесар Алан Ломакс, што прапанаваў сваім студэнтам у Калумбійскім універсітэце вывучаць на гэтых фільмах беларускі музычны фальклор, адзначыў, што фільмы змяняюць прадстаўленне аб беларускім нацыянальным меласе як аб нейкай завадной механічнай ляльцы, што масава ўжываецца, на разуменне непаўторнасці жывой (менавіта сённяшняй, жывой!) культуры і яе носьбітаў. Выдатны эстонскі этнамузыколаг Ленарт Мэры, аўтар эталоннага фільма ў галіне візуальнай (экраннай) антрапалогіі «Вет-



Зінаіда Мажэйка на здымках фільма - са славутай палескай спявачкай Ганнай Вянгурай з вёскі Тонеж Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці

ры Млечнага Шляху» пра фіна-ўгорскі этнас, зазначыў, што нездарма фільмы Зінаіды Мажэйка атрымалі ў Пярну прыз «За чысціню і паэтычнасць». Кіназнаўца Аўгусцін Янулайціс з Навукова-даследчага інстытута кінамастацтва (Масква) назваў цыкл фільмаў Мажэйкі унікальным па навуковай і мастацкай раўназначнасці.

Беларускі пісьменнік Алесь Адамовіч лічыў гэтыя экранныя творы залатым фондам беларускай нацыянальнай культуры. Гэта і сапраўды так. Імя Зінаіды Мажэйкі ўвайшло ў кнігу «500 выдатных інтэлектуалаў XX стагоддзя» Кэмбрыджскага універсітэту. У 2000 годзе Зінаіда Мажэйка была адзначана Ганаровым медалём «Чалавек года» Амерыканскага бібліяграфічнага таварыства. Па лініі ЮНЕСКА быў выдадзены дыск «Музычны фальклор беларускага Палесся» (запісы аўтэнтычнага фальклору і каментарыі З.Мажэйкі).

Для гледачоў розных краін свету цыкл этналагічных фільмаў Зінаіды Мажэйкі - бы глыток жывой вады, радасць эмацыянальнага дотыку да беларускай песні – душы народа. З.Мажэйка як навуковец у шматлікіх экспедыцыях па Беларусі даследавала «песенныя арэалы» і напісала грунтоўную манаграфію «Каляндарна-песенная культура Беларусі». Яна таксама выдала зборнікі песень беларускага Палесся, Паазер'я, Падняпроўя. А фільмы далі ёй магчымасць паказаць жывых носьбітаў нацыянальнага фальклору, паслухаць іх песні. Як прыгадвала Мажэйка, у выказванні аднаго са спевакоў закладзена думка аб спагадлівым слухачы: «Скручу галасную дудку, зайграю ўвечары – а луна ідзе! А я граю і думаю – а нехта ж слухае!» Фільмы Мажэйкі і слухаюць, і глядзяць. І радуюцца. Бо ў іх вялікі зарад жыццесцвярджальнай энергіі. Народны мелас увасабляе ў прыгожай, вобразнай форме эстэтычныя ідэалы прыгажосці, гармоніі чалавека з прыродай, адчуванне чалавекам яе біярытмаў. Сучаснаму чалавеку, які існуе пераважна ва урбанізаваным асяроддзі, ва ўмовах тэхнагенных стрэсаў, арытмічнасці, – так важна адпачыць душой, адчуць гарманічнасць спеваў у сугучнасці з порамі года, зменамі станаў прыроды. Народны земляробчы каляндар дае вяскоўцу такую магчымасць. Кожнаму перыяду года тут адпавядае свой эмацыянальны настрой, што ўвасоблены ў шматколерных народных абрадах, танцах і спевах. У фільмах Зінаіды Мажэйка зняты унікальныя палескія калядкі – народны карнавал, свята смехавай культуры. Рухаецца каляндарнае кола – і вось на экране перыяд летняга сонцастаяння, Купалле з яго культам агню, зямлі і раслін. Летнія лірыка-драматычныя, лірыка-эпічныя жніўныя песні – глыбінны кантакт чалавека з зямлёй-матухнай, са жнівом, з полем-ніваю. Восеньскія песні – працяглыя, задуменныя – спакойнае эпічнае выказванне. Гэты цыкл песеннай культуры дае чалавеку адчуць усе станы чалавечай душы ў іх кантрастах і адзінстве, ён прыносіць унутраную роўнавагу, так патрэбную нам у сучасным свеце.

Дзякуючы Зінаідзе Мажэйцы сусветна вядомымі сталі назвы вёсак беларускага Палесся, Паазер'я, Магілёўшчыны – Тонеж, Мотыль, Клятная, Тышкавічы і іншыя. У фонд сусветнай народнай музычнай культуры ўвайшлі імёны беларускіх карыфеяў спеваў. Гэта Сцяпан Дубейка, Ганна Вянгура, Алесь Каранчук, Хрысціна Дарашэвіч. Галасныя спевы на вольным паветры – гэта не проста песні беларускіх народных музыкаў, але і размова чалавека з ракой (далёка чутны спеў на паваротах ракі, калі спяваюць плытагоны). Гэта размова пастуха з лесам, жняі – з полем. Гэта эмацыянальны стан прыгожай і чуйнай душы беларускага народа. Такая жывая, чуйная душа – і ў этнамузыколага і майстра экраннай візуальнай антрапалогіі Зінаіды Мажэйкі. Калі душа спявае – вее вецер у шаўковых травах, коні вараныя багатага і шматплённага жыцця нясуць і нясуць у творчасці годы маладыя...

Творчага плёну і песні жыцця Вам, Зінаіда Якаўлеўна! Бо прозвішча Мажэйка, – пэўна, ад слоў «мажнасць», «магутнасць», «магчымасць». Гэта ўсе словы творчага здзяйснення ў жыцці.

**Вольга НЯЧАЙ**

# Чарнобыльскія матылі





**Пад эгідай Мінскага офіса Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і Грамадскага аб"яднання «беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль» выйшла ў свет кніга «Чарнобыльскія матылі. Жыццё пасля Чарнобылю». Выдаўцом выступіла ГА «Рэспубліканскі літаратурна-мастацкі фонд «Гронка».**

**Аснову кнігі складаюць расказы маладых людзей, якія ў дзіцячым узросце перажылі чарнобыльскую катастрофу. Кніга выдадзена на беларускай, англійскай, нямецкай і рускай мовах і праілюстравана надзвычай таленавітымі малюнкамі дзяцей і падлеткаў, якія ў эмацыйнай вобразнай форме авятляюць яе сэнс і настрой.**

**Эпіграфам кнігі служаць словы, вынесеныя на авантытул: «Чарнобыль - гэта цэлыя вёскі, выкарчаваныя з зямлі, Чарнобыль - гэта гібель людзей, Чарнобыль - калі паратунак становіцца выключэннем, Чарнобыль гэта вестка пра тое, што горшае яшчэ наперадзе».**

**Кніга нагадвае нам, што так і будзе, калі мы перастанем зважаць на гэтую бяду як на трагедыю краіны, на драмы чалавечых лёсаў, і не зробім належнае, каб зменшыць горасныя наступствы**



# Коласава «Победа»

«Победа» на здымках – асабістая машына Якуба Коласа. 15 год яна прастаяла ў гаражы, а да гэтага яшчэ 10 гадоў – на двары дома пісьменніка, цяперашняга мемарыяльнага музея. Зараз ёй – 50. Вельмі шаноўны ўзрост. У старых рэчах ёсць нейкая прыцягальная магія. На іх застаюцца сляды прысутнасці іхніх гаспадароў, і машыма, зразумела, не выключэнне – магчыма гэта сляды іх энергіі, нячутныя водгукі размоваў, якія там гучалі, жартаў ці пераЖытых хваляванняў. Наогул цікава паглядзець на машыну, у якой ездзіў Колас. І таму ў мінулую суботу з дазволу сённняшняга гаспадара машыны, унука Якуба Коласа, Андрэя Данілавіча, рарытэтнае аўто прадставілі публіцы.

«Победа» – увасабленне пасляваеннай эпохі. Магутная, цяжкая, яна ў тыя гады заварожвала вока, азначала сабой і перамогу, і мірную перспектыву, і лепшай машыны ў краіне проста не было, калі не лічыць «ЗІЛ» для высокапастаўленых асобаў . Зараз машына, як і тая яе эпоха, не больш чым незвычайны музейны экспанат, – зменлівы час нічога не шкадуе.

ГАЗ-М-20 «Победа» – савецкае аўто, распрацаванае ў 1943–45 гадах ва ўмовах вайны і ізаляцыі Савецкага Саюза. Праўда, кажуць, што яе проста «скапіравалі» з трафейных «опель-адміралаў» (як старога «масквіча» – з «опель-капітанаў»). Але, магчыма, такую пагалоску пусцілі савецкія недабразычліўцы. Ува ўсіх былых савецкіх рэспубліках і зараз лічаць «Победу» лепшым аўтамабілем ХХ стагоддзя. Упершыню машына была прадстаўлена крамлёўскаму начальству 19 чэрвеня 1945 года і хутка пайшла ў серыю Зараз аўтамашына належыць Андрэю Міцкевічу. Ён кажа, што машына абуджае ў яго ўспаміны дзяцінства.









**– Спадар Андрэй, вось кідаюцца ў вочы жоўтыя нумары «Победы», якіх ужо не сустрэнеш не вуліцах. Ці яны застануцца?**

– Мне як гаспадару на гэтую машыну выдалі новыя нумары, але старыя афіцыйна дазволілі захаваць. Дзед купляў «Победу» ў 1953 годзе, за свае ўласныя грошы, нягледзячы на тое, што меў службовую машыну. Я нарадзіўся ў 1952 годзе, так, што самы пачатак яе «жыцця» не памятаю.

Потым на ёй ездзіла мая маці, Кацярына Уладзіміраўна Міцкевіч, пасля – бацька. Зараз ад таварыства «Наша Перамога», якое апякае рарытэтныя «Победы», паступіла прапанова сабраць сродкі на рэстаўрацыю. Магчымасці зрабіць рэстаўрацыю за свае грошы ў мяне пакуль няма.

**– Ці выявілася цікавасць да рарытэту з боку дзяржавы?**

– Магчыма машыне будзе нададзены статус нейкай гістарычнай каштоўнасці. Былі размовы, што дзяржава можа купіць гэты стары аўтамабіль, але пакуль ніякіх канкрэтных прапановаў да мяне не паступала.

**– Ці збіраецеся вы ёй карыстацца пасля рэстаўрацыі?**

– Не, ездзіць я на ёй не збіраюся.

З гаража, былой майстэрні, сумеснымі высілкамі «Победу» выцягнулі на двор. Асабліва рупіліся сябры Таварыства абароны помнікаў тэхнікі і транспарту «Наша Перамога» і намеснік старшыні арганізацыі Васільцярэшка, сапраўдны фанат «Победы». Вядомы музыка, кіраўнік гурта «Ліцьвіны» сустрэў ігрой на дудзе. Андрэй Данілавіч частаваў дзяцей яблыкамі з дзедава саду. З машыны змялі пыл, падкачалі колы, і падалося, што «Победа» гатовая да падарожжаў. Знешнасць абманлівая. Пры першым аглядзе начыння, высветлілася, што бракуе некалькіх важных дэталяў. Такім чынам першая выкатка з гаража стала пачаткам поўнай рэстаўрацыі машыны Якуба Коласа. Паставіць «Победу» зноў «на колы» ўзяліся беларускія аўтааматары з таварыства «Наша Перамога», пра якое ўзгадваў Андрэй Данілавіч.

Аўтамабіль «Победа» – асноўны транспартны і эспанат, і сродак руху таварыства. З 36 адзінак аўтамотатранспарту, якія яно мае, - 18 там менавіта «Победы». Калі Таварыства выстаўляе сваю тэхніку на агляд публікі – відовішча ўражлівае. Мы папрасілі Васіля Цярэшку адказаць на некалькі пытанняў.

**- Скажыце, спадар Васіль, якім стане, на ваш погляд, зараз знаходзіцца гэтая машына?**

- Сам сп. Андрэй знайшоў у інтэрнэце інфармацыю, што ёсць таварыства абароны тэхнікі і транспарту, і патэлефанаваў мне і сказаў, што ад дзеда засталася ў спадчыну «Победа». Зараз яна, фігуральна кажучы, у коме.

**- Ці можна яе рэстаўраваць? Колькі часу можа заняць рэстаўрацыя?**

- Любую машыну можна рэстаўраваць. Канешне, калі б гэта была проста старая машына, яе, магчыма, ніхто рэстаўраваць і не ўзяўся б. Але гэта машына Якуба Коласа - і таму гэта наш абавязак вярнуць ёй ход. Гэта будзе даволі складана, і зойме немала часу, але дасць задавальненне. Усё пытанне ў сродках§ калі мы іх знойдзем - рэсташрацыя пойдзе хутчэй.











**- Колькі можа каштаваць уся рэстаўрацыя?**

- Думаю, некалькі тысячаў даляраў. Тут шмат штучнай працы, і спяшацца тут нельга. Самае галоўнае, што машына не бітая, не кулялася, не трапляла ў аварыі. «Победа» ўся аўтэнтычная — прыборы, гадзіннікі —ўусё захавалася, не разабранае і у даволі добрым стане.

**- Што вас як аўтааматара ўразіла ў Коласавай «Победе»?**

- Сёння гэтай машыне 50 гадоў, і мы спяшаліся гэта адзначыць. Я думаў, што ўбачу машыну ў лепшым выглядзе. Але ж усе можна паправіць, няма нічога, чаго нельга было б зрабіць. Канешне, мы не зможам захаваць аўтэнтычны колер фарбы, такой ўжо нідзе не знайсці.. Калі ачысціць, памыць то колер даволі прыгожы. Тэхнічна машына ў добрым стане. Так, што яшчэ паездзіць! І людзі яе пабачаць. Мне здаецца, што гэта будзе вельмі цікава на парадах рэтра-аўтамабіляў.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Словы далёкіх продкаў

***Старажытная сістэма намінацыі водных аб'ектаў Беларусі і суседніх тэрыторый***

**Раіса АЎЧЫННІКАВА**

Вывучэнне старажытнай сісітэмы гідранаміі Беларусі на працягу дваццаці гадоў дазволіла ўстанавіць некаторыя заканамернасці ў называнні водных аб'ектаў, якія не маглі да гэтай пары быць вытлумачаны з дапамогай лінгвістычных ці гістарычных метадаў. Галоўны ўпор у даследаваннях быў зроблены на геаграфічны метад. Праводзіліся палявыя выезды на аб'екты, падрабязна вывучаўся навакольны ландшафт, марфаметрычныя і гідраметрычныя характарыстыкі рэк і азёр.

Папярэдне былі адабраны найбольш тыповыя гідранімічныя элементы, якім адпавядалі аднолькавыя прыродныя рэаліі. Найбольшы навуковы інтарэс вызвалі гідронімы, якія адлюстроўвалі ў сваіх назвах важныя для жыццядзейнасці старажытнага насельніцтва такія ўласцівасці водных аб'ектаў, як праточнасць, або выточнасць з азёр.

Старажытныя плямёны сяліліся звычайна на высокіх берагах рэк і азёр альбо ў лукавінах, дзе яны былі абаронены воднай перашкодай ад ворагаў, атрымоўвалі тут добры прытулак, месца для палявання і паляўніцтва. Веданне водных шляхоў, выхаду ў далейшую водную сістэму было неабходнай умовай існавання. Таму не дзіўна, што гэтыя якасці адлюстроўваліся ў назвах водных аб'ектаў.

## Элемент СВ

Сярод такіх назваў – вядомыя беларускія гідронімы: Асвея, Свір, Свіцязь, Свіслач і менш вядомыя Свакня, Сваротва, Свацце, Сведзь, Свеса, Свідна, Svіла, Свінка, Світка, Свольна – усяго больш 70 назваў з элементам СВ- у аснове. Гідронімаў з вакальнасцю ў корані мала: тры рэчкі Савы, адна Саўка і возера Сванар на Браслаўшчыне. Ёсць яшчэ рэчка Сівельга. Вакальнасць -Е- ў корані за межамі рэспублікі - возера Сево і рака Сева ў Расіі. Гідронімаў з элементамі СВ- у Расіі таксама сотні. Самая вядомая назва ракі Свір, пратокі з возера Анежскага ў Ладажскае. Між тым гэты гідронім ва ўсёй тапанамічнай літаратуры звычайна звязвалі памылкова з фінскім словам у значэнні «глыбіня».

Аснова СВІР- паўтараецца і ў Літве, звычайна ў назвах праточных азёр. З нашага беларускага возера таксама маецца выток – гэта рака Страча (варыянт Свіранка). З вядомага возера Свіцязь на Навагрудчыне выцякае рака Сваротва. Яшчэ адно возера Свіцязь маецца ў Нясвіжскім раёне, праз яго працякае рака Уша. І трэцяе возера Свіцязь, таксама праточнае, маецца на Украіне ля мяжы з Беларуссю. Рака Свольна бярэ пачатак з возера Нечарыца, рэчка Свячанка выцякае з возера Вялікае Святое, з возера Свідна цячэ ручай у раку Заражанку, з возера Свіна пачынаецца рака Свіна і працякае праз 47 азёр, з возера Світка цячэ ручай да возера Світа і г.д.

Значэнне асновы СВ-/САВ- пацвярджае геаграфічны тэрмін САВ/САП, які захаваўся ў вугорскіх мовах, дзе ён азначае «выток з возера, або балота». Апошняе таксама зразумела, бо азёры ў сваім развіцці часта забалачваюцца і ператвараюцца ў балоты.

## Элемент СП

З улікам чарагавання гукаў В і П у старажытнай гідраніміі аказалася магчымым уключыць у гэты ж рад гідронімы з асновай СП-. Сярод іх – Спанаўка, Спонка, Спораўскае, Споры, Спорکі, Спіцы, Спасцер, Спушанка, Спягліца, Іспол, Іспалоха, Успол, Успер. З вакальнасцю ў корані група меншая – Сапшо, Сіла, Супанец.

Ведаючы заканамернасці ў чаргаванні гука С з Т, пераход у Ш, прамежкавасць гука Л, азванчэнне глухіх С, Ш, Т у З, Ж і Д дазволілі пабудаваць сістэмны рад гідронімаў з улікам гэтых асаблівасцей. Гэта пабудова прывяла да наступных вынікаў.

Упершыню ўдалося даказаць сістэмнасць узнікнення шэрагу гідронімаў, якія да гэтага тлумачыліся зусім па-рознаму і ў адрыве ад геаграфічных рэалій.

Старажытны варыянт ШВ- знойдзены на Беларусі толькі ў шасці гідронімах – Швакшты (2), Шэвіна (2), Шэўня, Шэвінка. У Літве іх болей, параўнай – Швянціс, Швенціце. Аднойчы сустрэўся элемент ШП- Шпанаўка, з вакальнасцю – Шапорава, Шопінка, Шопск, Шэпельна і ШЧБ-/ШЧП- Шчабірка, Шчыбат, Шчаперня.

## Элемент ТВ

Варыянт ТВ- таксама рэдкі – Тоўша, Атводы, Утвіна, Утвоха, Твіна-йогі (Дзвіна ў старажытнасці ў эстаў), Ятвіж, Ятвезь. Гэты элемент упершыню вытлумачыў і гідранамічнае паходжанне этноніма ЯЦЬВЯГІ. Доказна, што вёска Яцьвезь знаходзіцца менавіта на беразе возера Свіцязь і тое, што назва сустракаецца ў выглядзе гідронімаў. Прычым рака Ятвезь знаходзіцца ў басейне Нарава ў гістарычным арэале, а Ятвіж у басейне Іпуці, далёка на ўсход ад таго месца, дзе жылі яцьвягі.

Многія этнасы маюць аналагічнае паходжанне ад водных назваў – *бужане, вяцічы, палачане, тудаўляне, літва, судавы, радзімічы, дрыгавічы*.

## Элемент ДВ

Вельмі рэдкім аказаўся варыянт КВ-, які ўзнікаў пры алафоне гука С. Гэта назвы возера Охват у вытоках Дзвіны, возера Ухвішча. Затое вельмі ўтваральным аказаўся варыянт ДВ- і яго варыянты – больш за 25 назваў, а таксама столькі ж мае варыянт ДАБ-, бо яны часта асэнсоўваліся з падобнымі славянскімі словамі *дзева, дабро*, таксама як і ў папярэднім элеменце СВ- з славянскімі прыметнікамі Святое, і азвончаным варыянтам першага гуку тыпа Звонка, Звярынае.

Сярод гідронімаў з элементамі ДВ- пералічым назвы азёр у Беларусі – Двея, Дзвініца, Дзвіноса, Продзвінка, Дзвіва, Дзвявіцы, Дзявічкі, Даўторка, назва горада Доўска.

Група з элементамі ДАБ-/ДОБ- уключае ў сябе назвы Дабранка, Дабрыха, Добжа, Дабрасень, Добрая, Добрынка, Добрыца, Добруш, а таксама Дабееўскае, Добасна, Даўбле, рэдкая вакальнасць з карэнным Е – Дзебна, Уздзебна.



Рака Іслач (па-мясцовому яшчэ – Віслач)

## Пераход С у Л

Не менш уражваючыя вынікі даў аналіз групы элементаў, утвораных на гістарычным этапе пе-



Возера Свіна

раходу гука С у Л, гэта элементы тыпу ЛЬВ-/ЛАВ-/ЛОВ-, ЛАП-/ЛОП, ЛАБ-/ЛОБ, ЛЕБ-/ЛЮБ. Сярод гідронімаў з гэтымі элементамі - Ловаць, Ловаж, Лоўжа, Льва, Лапасня, Лапушынка, Лопань, Лебасціна, Лабчанка, Лобна, Лобніца, Лобскае, Альба, Альбенеўскае, Альбінск, Альбуці, Лоба (Льба), Олбіта, Ольбля, Любавель, Любань, Любач, Любітава і іншыя. Толькі гідронімаў з асновай ЛЮБ- у Беларусі амаль два дзесяткі, дададзім сюды столькі ж назваў балот і каля сотні назваў населеных пунктаў. І гэта не дзіўна, таму што падобныя геаграфічныя тэрміны балотнай семантыкі маюцца ў многіх мовах, параўнаем старажытнарускае ЛЫВА, фінскае ЛІВА, эвенскае ЛОВЭ, венгерскае ЛАПА. А саамскае ЛУОББАЛ азначае «праточнае возера». Як бачым, семантычнае поле падобных тэрмінаў даволі шырокае, што таксама сведчыць аб шаноўным узросце гідронімаў.

Геаграфічныя рэаліі для гэтых назваў доказныя. На беразе возера Любань у Кобрынскім раёне стаіць вёска Дзівін, з возера маецца выток у Дняпроўска-Бугскую сістэму. Праз возера Любань на Міншчыне цячэ рака Арэса, і возера гэта сапраўды ляжыць у нізкай балоцістай мясцовасці. Праз возера Любязь на Украіне працякае ў вярхоўях Прыпяць. Рака Любутка ў вярхоўях Заходняй Дзвіны бярэ выток з возера Сіманаўскага. Азёры Лубана ў Латвіі і Любань у Ленінградскай вобласці таксама тыпова балотныя азёры і праточныя. Такім рэаліям адпавядае сучасны саамскі геаграфічны тэрмін ЛУОББАЛ «праточнае возера».

У Еўропе падобныя назвы таксама шырока распаўсюджаны, нагадаем раку Лабу (Эльбу), а таксама гарады Любляну ў Югаславіі, Люблін у Польшчы, Любек у Германіі, старажытную Любушскую зямлю на Одэры. Нагадаем таксама вядомыя геаграфічныя назвы - раку Саву ў Югаславіі, раку Свідэр у Польшчы.

Гэтыя прыклады пацвярджаюць выкладзеныя вышэй прынцыпы намінацыі водных аб'ектаў Беларусі ў старажытнасці, якія з'яўляюцца агульнымі для блізкіх з Беларуссю тэрыторый.



Рака Заходняя Дзвіна



Рака Свіслач

# Ядвігін Ш.

**135 год з дня нарадэння**

## Дуб-дзядуля

Амаль не ўся вёска зайздросціла мне майго надзела. Шнур быў, праўду кажучы, ані большы, ані выгаднейшы, ані зямліца на ім не лепшая, – можа нават горшая, бо пры канцы шнура была страшэнная гара, дзе апроч грэчкі ды ярыцы нічога не радзіла, але на самым версе гэтай гары рос такі дуб, што аж дзіві́ўся народ: веліч, таўшчыня, а сукі так разрасліся, што, здавалася, свет бы пад сябе хацеў падгарнуць.

З давён-даўна ўсе звалі яго: дуб-дзядуля.

Дык вот паслухайце, што мне пад гэтым дубам здарылася.

Раз улетку, ад цёмнага напрацаваўшыся, што аж пот з мяне цурком каціў, губы пасмяглі, босыя ногі да крыві патрэскаліся, - зацягнуўся я неяк на гару да свайго дзядулі – аддыхнуць у яго цяні. Толькі прылажыўся гэта я, уздыхнуў раз, другі і пачынаю драмаць... Ажно чую: не то над галавой, не то пад галавой нехта таксама два разы ўздыхнуў... Стаў я прыслухвацца: яшчэ і яшчэ ўздыхае, але так цяжка ўздыхае, што аж за сэрца бярэ, немаль стогне... Пеpажагнацца хачу – рукі падняць не магу!.. Струхлеў я – ляжу, чакаю, што будзе. Аж тут нехта ў вуха маё шэпча:

– Не бойся, не пужайся, дзіцятка ты маё, не пужайся: я гэтак дышу, я гэтак уздыхаю, я – твой дубочак старэнькі...

– Божа моцны!.. Што ты, дзядулька, як жа гэта можа быць, каб дрэва ўздыхала ды гаварыла? – пытаю ўжо смялей.

– Эх, дзіцятка, дзіцятка, – зноў шэпча мне на вуха, – шмат чаго ты яшчэ не ведаеш, шмат чаго не разумееш, але люблю я цябе, шчыра люблю, як любіў тваіх бацькоў, дзядоў ды прадзедаў, бо не зазнаў ніколі крыўды ад вас, а толькі векі пашанасць меў... Пара прыходзіць, дзіцятка ты маё, пара прыходзіць сказаць, адкрыць табе такое, чаго нікому яшчэ не гаварыў... Але пакляніся, што споўніш маё апошняе жаданне!

– Клянуся, дзядулька, клянуся, родненькі, споўню, усё споўню, – зноў, дрыжучы ўвесь, адказваю.

– Слухай жа! – кажа дуб-дзядуля. – Адкуль я тут узяўся і калі радзіўся, ніхто, ды і я сам добра не ведаю. Помню толькі - з малалецтва жылося нішто, суседства шмат меў: сваёй радні – цэлыя ваколіцы, – хлопцы адзін у адзін – дужыя, здаровыя; а тут да кампаніі зграбныя елачкі, – хоць сварлівыя, але сэрца добрага, – сасонкі. Міргнеш ім, бывала, жалудком, а яны табе шышкай у бок... А асінкі-пашаптушкі? Кіўні толькі ён галінай (бо дубу не след кланяцца асіне!), а яна, як тая сарамлівая панначка, затрасецца ўся і лісточкамі цябе абсыпе... От, ведама, забаўляліся, як умелі... Але што гэта ўспамінаць? Ляцелі годы, як вашы ляцяць дні, змяніліся вякі, як вашы годы, – а я стаяў і рос, рос і стаяў – крапчэў... Зрываліся не раз буры, – як пад тапаром, шмат нашых клалася, але тыя, што аставаліся, – яшчэ вышэй падымаліся; находзілі навальніцы, – гінулі тыя, што ў неба глядзелі, а знізу падымалася маладзёж; палятала свежага насення, і ўзрасталі суседзі невядомыя, незнаёмыя... Так вякі ішлі, аж мінула ўсё, – аж прыйшло і на тое, што з тутэйшых даўнейшых астаўся, як відзіш, адзін я. Праўда, вось глянь на захад: бачыш цёмную паласу? Але што гэта за лес? Хударлявы, крывы, увесь у суках – гніль нейкая, дый толькі. Глянь на ўсход, – прыслухайся да шуму гэнага лесу... Чуў ты калі шум здаровага, крэпкага дрэва? – не, не! не гэтак шуміць здаровы лес! А чаму ён так шуміць? – бо змарыўся, ніколі перадышкі не мае, гэтак і згінуць мусіць... Паглядзі на поўнач: ці бачыў ты калі такое дзіва? Такі гонкі, такі крэпкі здалёку выдае лес, а ўважай, як яго гайдае ва ўсе бакі, то да зямлі прыгне, то крыху адпусце, – здаецца, і вецер невялікі, а пень выпрастацца не можа. Цяпер глянь на мяне: пастухі бок асмалілі, людзі кару аскрэблі, колькі-то сукоў павыразалі? Лісты, жалуды – і тыя штогод падбіраюць; – усё, каб толькі сабе карысць мець; а ці падумалі, што стары ўжо я, пакалечаны, веку дажываю, а ніводзін жалудок мой не ўзрос... Сохну ўжо я. Каб хоць два, каб хоць год далі вы мне засілку – вадзіцы чыстай, здаровай, – можа б я вам памятку пакінуў: новае пакаленне. Прысягнуў ты, дзіцятка, – дык дабудзь жа ты мне цяпер гэткай вадзіцы, пашукай, прынясі, карэньчыкі мае бедныя падлі...

– Добра, – кажу, – дзядулька, добра, будзь спакоен: дастану, прынясу – хіба згіну!..

Бег я, змарыўся, – ужо і самому піць зажадалася. Цямнець стала, а вады як не відаць, так не відаць. Бачу, нейкая кабеціна - старэнькая, худзенькая – прыгаршчамі зямлю носіць.

– Ці не ведаеш, бабулька, дзе тут блізка вады дастаць? – пытаю.

– Хадзі за мной, сыночак, пакажу табе цэлае возера.

Уцешыўся я. Пайшлі, па дарозе пытаю:

– Адкуль ты, бабулька, і як завешся?

– Тутэйшая, – кажа, – а завуся Праца, сынок, Праца.

Дзіўнае, думаю, прозвішча. Прыйшлі да возера, – вялікае, што вокам не сцягнеш, і хоць вада мутная, брудная, – кінуўся я піць. Хлебануў раз – што гэта? Вада не вада, хоць смак і знаны. Ага, успомніў я, як напрацуешся ды пот, цякучы па брудным твары, пападзе ў рот, - от якраз гэтакі смак! Пытаю бабулькі:

– Праўда, сынку, праўда: пот. Паўнюсенькае возера людскога поту...

– А нашто ж ты зямлю прыгаршчамі носіш ды кідаеш у гэтае возера? – пытаю.

– Глыбокае яно без канца, а трэба, каб заўсёды было поўнае: дык вось, як засыплю яго зямліцай, тады і поту мала трэба будзе людзям ліць.

Здзівіўся я, але не было калі распытвацца, і пабег далей. Бег я, бег, – бачу зноў возера – больш за першае, але вадзіца ў ім такая чыстая, што аж свеціцца. Прыпаў я, хлебануў – горкая, але то такая горкая, што піць нельга! Прыйшло мне на памяць, як аднаго года апошнюю скацінку з хлева вывелі... Скацілася тады слязінка і ў рот мне папала... от якраз гэтакі смак!.. Бачу, старушка нада мной стаіць.

– Хто ты? – пытаю.

– Бяда, сынку, Бяда. Не пі, сыночку, гэтай вадзіцы, не пі: досі ты яе ўжо напіўся...

– А што ж ты тут робіш? – пытаю.

– Глянь, унь, на катлы вялікія, пад імі заўсёды агонь гарыць. Дзень і ноч наліваю я ў іх з гэтага возера поўна слёз людскіх і грэю, каб высахлі, аж пакуль усё гэта возера не высушу, аж пакуль пара ад іх не падымецца аж да неба!..

Здзівіўся я, але памчаў далей. Спатыкаю ізноў старэнькую кабеціну, – палівае яна зямлю з конаўкі.

– Дай, бабулька, напіцца, – прашу яе.

– Ідзі, – кажа, – да возера.

Падбягаю, – бачу: поўнае яно не вады, але віна чырвонага... Прыпаў, хлебануў... «Божа! – крыкнуў я са страху, – помню, помню гэтае віно: у губах яго было поўна, вочы ім заліты... помню яго! Але ж гэта не віно, але кроў! Людская кроў!..»

– Праўда, – кажа старушка, стоячы нада мной, – праўда, сыночку, людская гэта кроў, і вось мушу ўсё гэта возера конаўкай вынесці і ўсю зямліцу паліць!..

– Хто ж ты? – пытаю.

– Цярпенне, – ціханька адказала бабулька.

Без аглядкі кінуўся я ад гэтага страшэннага месца. Чую: у старане недзе бурчыць, пераліваецца, бяжыць, нібы, скажам, ручаёчак жывенькай вадзіцы. Я туды шукаць, аж тут – калі бліснe, трэсне, заляскае, – здалося, увесь свет задрыжаў!

Усхапіўся я, вочы праціраю, не магу да сябе прыйсці... Не чуў я, як бура найшла, як перуны сталі біць, пакуль не дабраліся да майго дзядулі, пад каторым я так моцна спаў... Працёр вочы, сон свой страшны ўспомніў, закалаціўся ўвесь, зуб на зуб не пападае... Гляджу: дзядулька мой бедненькі ляжыць ціханька на баку...

З таго часу прайшло некалькі год. Ляжыць дзядуля на сваім месцы (сукі толькі паабразалі), а з-пад яго вылезлі тры, хоць яшчэ цененькія, але гладкія, роўныя дубочкі...



## Гадунец

Каля крыжавых дарог пад узгоркам разрасліся кусцікі: пад'яловец, сухадрэўка і лаза. Кусцікі былі дробныя. Гулялі ветры лютыя і абрывалі лісточкі з іх; пралятали навальніцы страшэнныя і крышылі галінкі іх; каціліся паводкі глыбокія і падмывалі карэньчыкі ім. Дрэнна, зусім дрэнна стала жыць кусцікам...

Вось у цёмныя ночкі сталі шаптацца паміж сабой кусцікі, каб як долю сваю паправіць. Раіліся, раіліся і, урэшце, прыдумалі ўзгадаваць паміж сябе такое велізарнае дрэва, каторае б густымі лістамі сваімі ад ліхіх ветраў закрывала іх, вялікімі галінамі сваімі ад страшэнных навальніц сцерагло, тоўстымі карэннямі сваімі ад глыбокіх паводак бараніла.

Траплялася не раз, - памяталі кусцікі, - як паміж іх залятaлі зерняты з вялікіх дрэў, але яны і ўвагі на іх не звярталі: паляжыць гэтакае насенне, паваляецца, і то вецер далей яго гоне, то яно засохне і згіне. Але цяпер – пасля нарады – на першае зерне, якое да іх трапіла, сыпнулі кусцікі сваімі лісточкамі і іголачкамі і, гэтак прыкрыўшы, сталі шанаваць і сцерагчы яго. З пестуна на другі год – на вясну – паказаўся расток, і пагнала яго ўгару. Цешыліся кусцікі і, каб даць выгоду свайму гадунцу, не жалеючы падсыпалі і падсыпалі яму то лісточкаў сваіх, то іголачак.

Шмат год прайшло з таго часу, але ўсё ж ткі прыждалі кусцікі, калі іх гадунец-дрэва разраслося на здзіў высокае, на здзіў шырокае, на здзіў густое. Надзея кусцікаў, што вось-вось цяпер настане для іх новае, спакойнае, лепшае жыццё, цешыла іх бязмерна.

І праўда. Тоўстае карэнне, вялікія галіны, густыя лісты баранілі іх ад ворагаў, паводак, навальніц, ветраў, – але гадунец гэты закрыў ім і... сонца.

І – пагінулі кусцікі!..

## З жыццяпісу Антона Лявіцкага (Ядвігіна Ш.)

У 1868 годзе Вольга Валіцкая, другая жонка Івана Леявіцкага, адстаўнога афіцэра, які служыў лоўчым у графа Тышкевіча ў Валожыне, падаравала мужу першынца, якому далі імя Антон. Недалёка ад Валожына ў Лыцынцы жыў ужо стары заслужаны Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Вось да яго ў навуку і аддаў Іван Лявіцкі свайго хлопца, і не прагадаў - з блаславення пана Вінцэнта яго вучань стаў вядомы ў беларускай літаратуры пад псеўданімам Ядвігін Ш. Пасля вучобы ў Дуніна-Марцынкевіча, юны Лявіцкі скончыў Мінскую рэальную гімназію і паступіў у Маскоўскі універсітэт, адкуль яго хутка выключылі за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. На гэтым афіцыйная навука скончылася. Антон здаў экзамен на аптэкарскага практыканта, і па вяртанні на радзіму ўладакаваўся памочнікам правізара ў Радашковічах. Дваццаці шасці гадоў ён узяў шлюб з Люцыяй Гнатоўскай, і ў гэты час бацька перадаў яму ў спадчыну маёнтак Карпілаўка. Сядзіба была сціплая - невялікі дом з мансардай і ганкам на слупах (традыцыйная прыкмета шляхецкага дома), парк, сад, сажалка з востравам пасярэдзіне. Дом дзяліўся на гасцёўню, кабінет, спальню, бібліятэку, дзе быў камін, сталовую і кухню. Апярэджваючы падзеі, трэба сказаць, што ў 1922 годзе дом згарэў, а новазбудаваны на падмурках старога ў 1982 годзе разабралі і перавезлі ў Радашковічы. Цяпер ад сядзібы Ядвігіна Ш. засталіся рэшткі парку з раслінамі, якія садзіў некалі ўздоўж ручая гаспадар. Няма і ранейшай сажалкі, дамбы, млына, с200-гадовай ліпы. А некалі пад ёй любіў Ядвігін Ш. гуляць са сваёй дачкой Вандай (дарэчы, якая таксама стала беларускай пісьменніцай). Да гэтай Ванды потым заляцаўся Максім Багдановіч, але ў іх не зладзілася, і Ванда стала жонкай Язэпа Лёсіка, знанага мовазнаўцы.

У Карпілаўцы Лявіцкі насадзіў сад на 4,5 гектары. Сад вымерз у лютыя маразы 1940 года. А вось дубы па яго ўскрайках вытрывалі і стаяць пасёння, сцерагуць памяць свайго слыннага гаспадара.

У 1909 годзе суседнія з Карпілаўкай Акопы пачала арэндаваць маці Янкі Купалы. Ядвігін Ш. і малады паэт сталі суседзямі, нават праклалі сцяжыну праз лес і абсадзілі яе ігрушамі. У 1912 годзе Ядвігін Ш. у сваёй хаце стаў першым слухачом «Паўлінкі», якую мог ацаніць лепш за іншых, бо сюжэт і характары былі спісаныя з мясцовых падзеяў і тыпаў. Такімі ж назіраннямі сілкавалася і творчасць Антона Лявіцкага. Шмат якія з яго твораў уяўляюць апрацоўку казак і паданняў. Тут, у Карпілаўцы, ён напісаў «Лісты з дарогі» - уражанні ад 400-кіламетровага пешага паходу з Вільні цераз Налібоцкую пушчу ў сваю сядзібу (лета 1910 года). У Першую сусветную вайну Ядвігін Ш. зрабіў у Карпілаўцы прыют для дзяцей-сіротаў, прыняўшы 30 няшчасных падлеткаў.

Памёр пісьменнік у сакавіку 1922 года ў Вільні, і пахаваны на могілках Роса побач Уладзіслава Сыракомлі і Яўстафа Тышкевіча. Жонка жыла ў Карпілаўцы да раскулачвання ў 1928 годзе, а пасля пераехала да Ванды ў Мінск. Сыны Ядвігіна Ш. апынуліся ў сібірскіх лагерах. Муж Ванды, Язэп Лёсік, быў расстраляны ў Саратаўскай турме як «вораг народа». Хросным бацькам дзяцей Ванды - Люцыі і Алесі - быў Янка Купала. Вось так і кружыць жыццё, змяняючы шчасце бедствамі і нараджаючы новыя спадзеі.

# Пётра Сергіевіч: Творчы лёс мастака



Арсень ЛІС

XX стагоддзе, выпрабавальная для беларусаў як этнасу, трагічнае ў лёсе цэлых пакаленняў творчай інтэлігенцыі, у асобныя перыяды адзначана буйным плёнам прыгожага пісьменства, выяўленчай, музычнай тэатральнай культуры дв неардынарнымі здабыткамі грамадскай і навуковай думкі.

На пачатку было слова.

На духоўным гарызонце Беларусі пачатку XX стагоддзя зоркамі першай велічыні ўзыйшлі таленты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

Беларускае сцэнічнае мастацтва закрасавала імёнамі драматургаў і рэжысёраў у адной асобе Францішка Аляхновіча, Уладыслава Галубка, Яўсцігнея Міровіча. Незабыўным натхнёным дойлідам беларускай тэатральнай сцэны быў яшчэ Фларыян Ждановіч, пазней навек замоўклы ў марознай стыні расійскай Поўначы.

Музыка ўздымалася Людамірам Рагоўскім, з яго «Беларускай сюітай» і «А хто там ідзе?», Уладзімірам Тэраўскім, аўтарам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», Мікалаем Равенскім, з яго гімнам «Магутны Божа»...

Жывапіс і графіка ў Беларусі першай чвэрці XX стагоддзя шукалі і знайшлі нацыянальна-адметнае выяўленчае ўвасабленне ў творчасці мастакоў Язэпа Драздовіча, Фердынанда Рушчыца, Міхася Філіповіча...

Равеснік веку, Пётра Сергіевіч, народжаны 10 ліпеня 1900 года у вёсцы Стаўрова, над возерам Богін, на Браслаўшчыне, далучыўся да ўзвядзення «гмаху беларускай культуры» ў адраджэнскія 20-я гады. Філосаф, літаратурны крытык, культуролаг Уладзімір Самойла называў іх перыядам беларускага актывізму. Сапраўды, насуперак жорсткім палітычным рэаліям (зрыву знешнімі сіламі распачатай маладымі дэмакратамі адбудовы беларускай дзяржаўнасці, драматычнаму падзелу Польшчай і Савецкай Расіяй тэрыторыі краіны) беларускае Адраджэнне, паўсталае ў часы «Нашай Нівы», паволі набірала маштаб. К 1927 году яно практычна ахапіла ўсе сферы жыццядзейнасці народа, а перадусім духоўна-інтэлектуальную і грамадскую. Самаідэнтыфікацыя беларусаў, нацыянальная кансалідацыя актыўна ішла па абодва бакі польска-савецкай дзяржаўнай граніцы, у Заходняй і Усходняй Беларусі, у кожнай па-свойму.

Беларускаму актыву ў Вільні ўвосень 1922 года удалося зрабіць першы палітычны прарыў. Выступаючы супольным выбарчым блокам нацыянальных меншасцяў (украінцаў, габрэяў і немцаў), беларусы правялі ў вышэйшы орган улады 2-й Рэчы Паспалітай 14 паслоў, сваіх прадстаўнікоў, якія ўтварылі ў сойме асобную парламенцкую фракцыю Беларускі пасольскі клуб. Ужо першыя гады знаходжання Заходняй Беларусі пад уладай польскай адміністрацыі недвухсэнсоўна засведчылі: сацыяльная і культурныя перспектывы карэннага, беларускага насельніцтва ў адроджанай Польшчы будуць праблематычнымі.

Рэгенерацыя заходнебеларскіх земляў, што ў Першую сусветную вайну тры гады запар былі арэнай зацятага руска-германскага ваеннага супрацьстаяння ды ў дадатак двойчы зазналі імклівыя разбуральныя перакаты польска-савецкіх франтоў, патрабавала мудрага сумленнага дзяржаўнага падыходу. Тым часам польскія ўрады яшчэ дэмакратычнага, парламенцкага перыяду, прынамсі прэм'ера Сікорскага, прызнаючы на словах правы нацыянальных меншасцяў, аўтарытэтна замацаваныя ў Версальскім трактаце і пацверджаныя ў Рыжскім мірным дагаворы, праводзілі ў дачыненні Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны адкрыта каланіялісцкую палітыку.

На спустошаную, зруйнаваную зямлю, куды да спаленых сядзіб ды парослых кусоўем ніў вярталіся з Расіі некалі масава выгнаныя вайной бежанцы з Віленшчыны, Гродзеншчыны, заходняй Міншчыны (больш за мільён чалавек), польскі сойм, урады спяшаліся пасяліць вайсковых асаднікаў. Дзеля замацавання за дзяржавай этнічна няпольскіх тэрыторый праз каланізацыю, асіміляцыю.

Паўсталыя ў міжчассе 1915–1921 гг. у асноўным самаахвярнасцю нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, настаўніцтва ды бацькоў першыя беларускія школы похапкам закрываліся асветнымі інспектарамі, прысланымі з Галіцыі і карэннай Польшчы. Адразу гвалтоўна пераўтворана была ў польскую толькі што адкрытая беларуская гімназія ў мястэчку Будславу, закрыты беларускія настаўніцкія семінарыі ў Свіслачы, Барунах, крыху пазней – гімназія ў Гарадку. Разбураліся гэдак жа падступна беларускія спажывецкія кааператывы, падставы эканамічнага выжывання жыхарства, яго першыя грамадскія ячэйкі.

Пад моцны адміністрацыйны прэсінг адразу трапіў беларускі незалежны перыядычны друк. Яшчэ вайсковай цэнзурай былі ўдушаны «Беларуская думка» і яе пераемніца газета «Наша думка». Закрыты «Беларускія ведамасці», а іх рэдактар пісьменнік Максім Гарэцкі арыштаваны і дэпартаваны за мяжу. Выдаваная Леапольдам Родзівачам газета «Наша будучыня» была забаронена на 9-м нумары...

У той час, як былыя бежанцы, вярнуўшыся на радзіму, у сваім лясным краі вымушаны былі туліцца ў зямлянках, не могучы набыць дрэва, каб пабудавацца, дзяржава дзеля валюты спехам прадавала англійскім і бельгійскім фірмам канцэсіі на высечку беларускіх лясоў, у тым ліку беларвежскай пушчы...

Зыходзячы з аналізу рэалій жыцця трохмільённага народа Заходняй Беларусі, старшыня Беларускага пасольскага клуба Браніслаў Тарашкевіч у сваім першым выступленні ў сойме 2-й Рэчы Паспалітай ад 23 студзеня 1923 г. даў аб'ектыўна-жорсткую карціну сацыяльнага, эканамічнага і палітычнага становішча краю, які з годнасцю прадстаўляў. Беларускія дэпутаты сойма вуснамі свайго лідэра публічна агучылі ўласную праграму, палітычную платформу і па праву адвечных жыхароў-абарыгенаў краю практычна прад'явілі Польскай дзяржаве, яе ўраду, парламенту аб'етыўныя прэтэнзіі:

*Стоячы на грунце тэрытарыяльнай аўтаноміі з краёвым соймам у Вільні, дамагаемся:*

*– найхутчэйшага спынення штучнай каланізацыі і ліквідацыі вайсковага асадніцтва;*

*– нацыяналізацыі ўсіх лясоў і безадкладнага выдання закону, які рэгуляваў бы вырубку лясоў, з мэтай забяспечыць край ад знішчэння;*

*– увядзенне ў жыццё зямельнай рэформы, якая б найперш забяспечвала інтарэсы мясцовай беззямельнай і малазямельнай люднасці, надзяляючы яе зямлёю без выкупу;*

*– зварот рэпатрыянтам канфіскаванай дзяржавай зямлі;*

*– адбудова зруйнаваных вайною вёсак і мястэчак;*

*– свабода арганізацый у эканамічным жыцці.*

Далей ішоў блок пастулатаў, што датычыў нацыянальных правоў беларусаў у Польскай дзяржаве, закладкі асноў грамадскай супольнасці ў краіне. Яны былі пазначаны ў такой паслядоўнасці:

*– безадкладнае выданне законаў, якія забяспечвалі б беларускай люднасці культурнае і асветнае развіццё;*

*– дапушчэнне беларускай мовы ў адміністрацыю і суд;*

*– неўмяшанне адміністрацыйных улад у рэлігійнае жыццё;*

*– адміністрацыя з мясцовых элементаў;*

*– увядзенне дэмакратычных прынцыпаў, суда прысяжных і выбарнасці міравых суддзяў; нарэшце, тэрытарыяльная арганізацыя войска.*

Фактычна, праграмныя пастулаты беларускіх паслоў-дэпутатаў, прагучаўшыя з трыбуны сойма ў Варшаве, не былі вынікам думкі, пазіцыі адной дэпутацкай групы. Яны – плён усёй арганізаванай на той час беларускай грамадскасці ў Вільні, Заходняй Беларусі.

Што сабой уяўляла напачатку 20-х гадоў беларуская грамадскасць тут, на захадзе, у межах Польшчы? Які меўся ў яе інтэлектуальны, палітычны, мастацкі кансалідуючы патэнцыял?

Вільня, з пачатку XX стагоддзя стаўшы ідэалагічным і культурным цэнтрам беларускага Адраджэння, к сярэдзіне 20-х гадоў сабрала ў сабе нямала грамадска арыентаваных беларускіх працаўнікоў. Сярод іх некалькі постацей сапраўды знакавых. Вядома, наяўнасць інтэлектуалаў, як паказвае хоць бы сённяшні дзень Рэспублікі Беларусь, яшчэ не гарантуе грамадскі прагрэс. Тым больш у супрацьстаянні дзяржаўнай машыне пры яе адназначнай скіраванасці на падаўленне імкненняў нацыянальных меншасцяў да самастойнага быцця, як гэта было ў даваеннай Польшчы. Максім Гарэцкі, які якраз у Вільні на працягу нейкіх чатырох гадоў адбыўся як выдатны празаік, першы гісторык беларускай літаратуры, рэдактар-выдавец, пісаў, публічна пытаўся тут восенню 1921 года:

*«Сіл у нас хопіць. Мы сапраўды адна з культурных і духоўна багатых нацый. Але што ж, калі сілы нашы будуць расцярушаны, не звязаны, не падлічаны, адны адным невядомы?»* *І ў канцы, паўтарыўшы думку пра наяўныя «значныя кадры нацыянальных культурных працаўнікоў, якія заўсёды падымуць справу да належнай вышыні», Гарэцкі клікаў «весці грамадскую работу з планам, абдумана і арганізавана».*

Нельга сказаць, каб носьбіты беларускай ідэі тут, на заходнебеларускіх землях, не мелі стратэгіі, плана работы. Ужо з 1921 года прадстаўнікі ўсіх беларускіх палітычных партый, а г.зн. сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-рэвалюцыянераў і хрысціянскіх дэмакратаў, а таксама культурна-грамадскіх арганізацый, Саюза беларускіх кааператываў, Беларускага навуковага таварыства аб'ядналіся ў адным каардынацыйным прадстаўнічым органе – Беларускім нацыянальным камітэце. У часы Беларускай сялянска-работніцкай грамады філіялы БНК былі створаны ўва ўсіх паветах. Круг праблем БНК быў вельмі шырокі: ад выпрацоўкі праграмы і тактыкі дзейнасці беларускага парламенцкага прадстаўніцтва ў сойме да задач нацыянальнай асветы, школьніцтва, якія стаялі надзвычай актуальна, востра.

Ішло гуртаванне сіл вакол нацыянальнай ідэі, назапашванне культурных здабыткаў. І калі ў літаратуры, грамадскай думцы, філасофіі духоўныя набыткі, будзячы жывы водгалас у народзе, абазначыліся яўна, навочна, то ў выяўленчым мастацтве, тэатры на агульным фоне заходнебеларускай культуры, духоўнасці яны праступалі сціплей. Што праўда, Язэп Драздовіч у сваім жывапісным палатне «Пагоня Ярылы» (1921) як мастак і мысляр узняўся да шырокага вобразнага абагульнення беларускай ідэі, беларускага шляху. Інтэлектуальна дараўняўся дзесь да аўтараў філасофскіх эцюдаў Ігната Канчэўскага з яго «Адвечным шляхам» (1921), нарысаў крытычнага аптымізму Уладзіміра Самойлы «Гэтым перамажаш!..» (1923). Вершнік на белым кані са шчытом, ярылавым крыжам на ім ды паходняй замест мяча проста з неба імклівіць напярэймы Цмоку, што хціва паклаў лапішчу на зямную паўсферу, нашу зямлю. На пярэднім плане край раскрытага кургана, паміма іншых сімвалаў каменныя скрыжалі. На іх словы: Vivat Albarussia Liberta – «Няхай жыве вольная Беларусь!»

Працяг будзе



Станіслаў ЛЕМ

# Паўтарэнне прамоўленага



## 1

На жаль, я набліжаюся да 80-й гадавіны свайго нараджэння, такім чынам, я апынуўся, як азначыў гэта Бэкет, у канцы. Гэты факт прымушае задумацца над тым, якія са з'яваў, сёння ўжо звычных, мне ўдалося даследаваць у мінулым.

Я пачаў бы з таго, што гэта няпраўда, быццам бы я некалі выступаў у ролі прадказальніка магчымасці кланавання. Мноства людзей пісалі пра гэта і да мяне, і я не хачу прысвойваць сабе чужыя заслугі. У той жа час ёсць дастаткова справаў, якія я лічыў нязмерна больш важнымі. Другое выданне «Сумы тэхналогіі» заканчваецца сцвярджэннем, якое я працытую па памяці: «Мову, на якой звяртаюцца гены да наступных пакаленняў генаў, варта вывучаць, бо мы на нашай чалавечай мове ствараем толькі філасофію, а мова генаў стварае філосафаў». Гэтага я прытрымліваўся. Адначасна адным з першых я прыдумаў тое, што сёння называецца «віртуальнай рэальнасцю», і што я назваў «фантаматыкай». У гэтым я магу прызнацца.

## 2

Некаторыя адчуваюць расчараванне з прычыны таго, што наш арганізм сканструяваны на падставе ўсяго толькі трыццаці з нечым тысяч генаў, і мы маем столькі агульных генаў з драждажамі, што можам лічыць дрожджы амаль сваімі сваякамі. Звяртаючыся да таго, што я пісаў вельмі даўно, я адказаў бы гэтак: «Пры пісьме па-польску мы скарыстоўваем 24 літары (калі не лічыць дыякрытычных знакаў), і можна іх замяніць кропкамі і працяжнікамі азбукі Морзэ, цяпер ужо забытай. Колькасць асноўных літар не мае ніякай сувязі з тым, што з гэтых літар можа быць сканструявана: з невялікай колькасці знакаў можна скласці і малітву, і Евангелле, і Каран, і апісанне пабудовы Сусвету». Гэтая выснова банальная і трывіяльная, але праўдзівая: самая ўзнёслая паэзія друкуецца тымі ж літарамі, што і артыкулы ў самай паскуднай газетцы. З таго факту, што лік генаў адносна невялікі, таксама нічога не вынікае, і гэта не падстава разглядаць будову нашага цела як нейкі від унутрыэвалюцыйнай дыскрымінацыі.

«Напачатку было слова» – гэтую фразу мы добра ведаем. У сферы натуральнай эвалюцыі яна таксама мае сэнс: маецца на ўвазе слова, складзенае з біяхімічных літар. На Зямлі болей за пяць тысяч моваў, частка з іх сфарміравала пісьмовасць. Мы скарыстоўваем лацінскі шрыфт з нашымі лакальнымі дадаткамі ў форме дыякрытычных знакаў. Мова, на якой зносяцца гены, складаецца з элементаў, якія сфарміраваны біяхімічна. У абодвух выпадках у аснову закладзены пэўныя цаглінкі. Хутчэй за ўсё, галоўная розніца паміж чалавечым пісьменствам і біяхімічнай мовай генаў палягае ў тым, што наш пісьмовы ці друкаваны тэкст можа быць прачытаны толькі намі – кніга сама сябе не чытае, застаецца ў нязменным стане, – але мова генаў характарызуецца зваротнымі сувязямі.

## 3

Адкрыцці ў сферы генетыкі нараджаюць новыя пытанні: ці можна скарыстоўваць эмбрыянальныя клеткі ў даследаваннях, мэта якіх – тэрапія ці кланаванне людзей. Што датычыць кланавання, то бальшыня спецыялістаў і аўтарытэтаў, і не толькі свецкіх, сказала «не». Не выклікае сумневу, што, нягледзячы на гэта, праца ў сферы кланавання будзе працягвацца. Не надта даўно група маладых людзей скакала з маста на шнурах, саматужна зробленых з нейкіх падцяжак, і гэта скончылася трагічна. Людзі схільныя да розных вар'яцтваў, а жаданне быць першым – больш важкае, чым усе забароны і разумныя заўвагі, якія стрымліваюць безразважныя пачынанні. У маёй творчасці гэта таксама знайшло адлюстраванне ў двух накірунках: з аднаго боку, у «Суме тэхналогіі» я пісаў аб кланаванні даволі стрымана, але, з другога боку, у «Падарожжы дваццаць першым» з «Зоркавых дзённікаў» я маляваў шкілеты васьміногіх мужчын і бязрукіх жанчын; я лічыў, што пэўны від шаленства, якое не ўспрымае ўсемагчымыя этычныя, свецкія і духоўныя забароны, з'яўляецца фактам.

> «Мову, на якой звяртаюцца гены да наступных пакаленняў генаў, варта вывучаць, бо мы на нашай чалавечай мове ствараем толькі філасофію, а мова генаў стварае філосафаў»

Прэзідэнт Буш, намагаючыся дагадзіць як прыхільнікам, гэтак і працўнікам біягенетычных эксперыментаў, забараніў (з чым я цалкам згаджаюся) кланаванне чалавечых істотаў і адначасна дазволіў тэрапеўтычна скіраваныя эксперыменты на мацярынскіх клетках, абмяжоўваючы, аднак, іх да такой ступені, што, як лічаць некаторыя вучоныя, узнік тыповы аксімарон: можна, але нельга. Разам з тым, такая высокаразвітая краіна, як Японія, якая стаіць аднак у баку ад заходняй думкі і хрысціянства, падышла да гэтай праблемы інакш: там таксама не хочуць кланаваць людзей, але там дазволена праводзіць эксперыменты ў тэрапеўтычных мэтах у большым аб'ёме, чым у Амерыцы і нават у Вялікабрытаніі. Цяпер некаторыя амерыканскія ўстановы будуць як ласкі чакаць вынікаў даследаванняў, якія праводзяцца ў Японіі.

## 4

Наступная тэма – накірунак, які называецца сёння нанатэхналогія. Ужо існуе біялагічная нанаінжынерыя – усё становіцца значна меншым. Гэтую тэму я развіваў вельмі даўно: напрыклад, на планеце Энэфэр (Найвышэйшай Фазы Развіцця) асобныя драбінкі пяску, які яе накрывае, з'яўляюцца камп'ютэрамі. Ці верыў я ў гэта? У пэўнай ступені – так. Я быў перакананы, што мы самі нібыта з такога пяску зьлепленыя і падобная перспектыва знаходзіцца недзе наперадзе на шляху чалавека. А што з гэтай магчымасці калі-небудзь народзіцца – гэтага мы не ведаем. Быў такі нямецкі біёлаг мінулага стагоддзя Ханс Дрыш, які пісаў: «Магчымасці заўсёды большыя, чым іх рэалізацыя». Дрыш ставіў эксперыменты на яйцаклетках марскіх вожыкаў, і аказалася, што калі такую яйцаклетку перарэзаць, дык з'явяцца два марскія вожыкі, а калі аперацыю яшчэ раз паўтарыць – атрымаем чатырох. Працэс развіцця заўсёды ўдавалася давесці да нейкага закончанага выніку. Тады, аднак, верылі ў жыццёвыя сілы, прыдумалі мітагенетычнае вылучэнне, навука абрастала міфічнымі ўяўленнямі, ад якіх пазней вызвалілася. Сёння на змену геноміцы прыходзіць протэоміка, і мы ўжо маем справу не толькі з прачытанай картай генома, якую я нядаўна павесіў у сябе на сцяне; зараз трэба высветліць, якім чынам асобныя геномы ўзаемадзейнічаюць адзін з адным (амаль як літары ў словах і сказах, якія разам са знакамі прыпынку ствараюць новае адзінства), і на што яны здольныя ў перспектыве.

## 5

Цяпер я скажу нешта далёкае ад тэмы, але не зусім. У апошні час – магчыма менавіта таму, што знаходжуся напрыканцы жыццёвага шляху, – я зноў звярнуўся да твораў нашых вялікіх паэтаў. Ад чытання нават не столькі цудоўных вершаў Норвіда, а ад яго біяграфіі валасы дуба ўстаюць. Здольнасць прыніжэння і недаацэнкі ўласных дасягненняў была ў нашым народзе жахлівай. У Славацкага, у параўнанні з Норвідам, жыццё было выдатнае, хоць ягоны шлях таксама не быў усланы ружамі.

Прыцягнула маю ўвагу тое, што пісаў Славацкі пасля сустрэчы з Шапэнам: «Я сустрэў гэтага паміраючага». Сам ён быў на крок ад смерці, абодва яны сканалі ад сухотаў. У нашым стагоддзі дзякуючы дасягненням медыцыны з'явілася магчымасць яўнага павялічэння працягласці жыцця канкрэтнага чалавека. Гэта – аверс, а рэверсам з'яўляюцца ўсе тыя жахі, якія могуць здзейсніцца пасля прывядзення ў рух біятэхналогіяў. Да таго ж не ўсе гучныя прадказанні нясуць у сабе хоць бы зерне праўдападабенства. Мы пастаянна чуем аб хуткім стварэнні прышчэпкі супраць СНІДу. Але калі ўжо вірус грыпу здольны з непрадказальнай частатой пераўтварацца ў сваю мутацыйную разнавіднасць гэтак, што буйныя інстытуты Пастэра і Берынга вымушаны кожны год ствараць новыя вакцыны, дык што тут казаць аб д'ябальскім ВІЧ. Болей надзеяў, чым на прышчэпку, я ўсклаў бы на групу супрацьвірусных лекаў. Ужо шмат гадоў гавораць аб лячэнні рака, але ўвесь час людзі, блізкія і далёкія, ад яго паміраюць. Ад генетычных адхіленняў, якія выклікаюць новаўтварэнні, а гэтых новаўтварэнняў незлічона, цяжка ўявіць сабе адзіны лек. Гэта павінен быць такі прэпарат, які, з аднаго боку, ратаваў бы нас ад урастання пазногця ў вялікі палец, а з другога – пазбаўляў ад мігрэні; але такіх лекаў не існуе.

## 6

У апошні час мяне моцна ўразіла чытанне выдадзеных у 2000 годзе салідных амерыканскіх працаў, у якіх гаворыцца аб надзвычайнай унікальнасці нашай планеты з яе біясферай і ўскосна, але выразна, аўтары пераконваюць нас, што ўсе мы (разам са сваякамі дрaждажамі) з'яўляемся адзінымі жывымі істотамі ва ўсёй галактыцы, якая называецца Млечны Шлях. Аб іншых галактыках нам нічога невядома, і цяжка паверыць у тое, што мы здолеем усталяваць кантакт з іх магчымымі насельнікамі – сігнал будзе ісці ад двух да трох мільёнаў гадоў.

Як скептык я лічу, што недзе там нехта, магчыма, і існуе, але занадта далёка, каб з ім звязацца. Маё напачатку аптымістычнае меркаванне, што такі кантакт магчымы, яўна змяніўся. Пасвяціў мяне ў гэтую сферу даўно ўжо памерлы расійскі радыёастраном Іосіф Шклоўскі, які разам з Карлам Саганам ветліва запрасіў мяне на савецка-амерыканскі семінар, які праходзіў у Бюракане і быў прысвечаны кантактам з пазаземнымі цывілізацыямі. Было тое трыццаць гадоў назад. У кнізе матэрыялаў семінара я змясціў скептычны артыкул, у якім напісаў, што варта задумацца над тым, ці не зменяцца нашы погляды, калі на працягу трыццаці гадоў ніводзін сігнал не будзе намі пачуты ці атрыманы. І пазней Шклоўскі, які, як і Саган, быў энтузіястам ідэі кантактаў паміж цывілізацыямі, адступіў ад сваёй канцэпцыі, але раней, чым я здолеў даведацца, што ён канкрэтна думае, – Іосіф Шклоўскі памёр.

> Сёння я бачу, што няма ніводнага спосабу рэзультатыўна затрымаць развіццё нашай цывілізацыі.

Дазволю сабе прывесці наступнае параўнанне. Уявім, што мы жадаем паўтарыць паслядоўнасць лічбаў ліку Пі шляхам падкідвання манеты ці іншым чынам ствараючы выпадковую паслядоўнасць лічбаў. Чым больш лічбаў пасля коскі, тым меншая верагоднасць таго, што мы менавіта так можам дамагчыся патрэбнага выніку выпадкова. Колькасць выпадковасцяў, якія павінны былі здарыцца, каб на Зямлі ўзнікла жыццё і каб праз мільярды гадоў яно развілося гэтак, як развілося, таксама непаўторная.

## 7

Іншым разам мне прыпісваюць прароцкія здольнасці, якімі я зусім не надзелены, адначасна вінавацячы мяне ў чорнабачанні. Аднак трыццаць гадоў назад я не быў чорнабачцам, а наадварот, галоўнай ідэяй кніг, якія тады пісаў, быў, бадай што, цвёрды аптымізм, які я называў умоўна аптымізмам канструктара. Мой мысліцельны працэс працякаў быццам бы ў двух напрамках. Больш асцярожны ў прадказаннях са знакам сцвярджэння, я дазваляў сабе большую свабоду толькі ў сферы фантастычнай белетрыстыкі. Тут я сапраўды паказваў жахі, да якіх могуць прывесці чалавечыя заганы: усціланне сценаў нейронамі і г.д. Аднак я трактаваў гэта як нявінны гумар, бо не было нават малой асновы для таго, каб маё прадбачанне сталася істотным ці значным. Але неўзабаве аказалася, што гумарыстычныя ідэі, на жаль, пачалі ўвасабляцца ў рэальнасці. Гэта, магчыма, стала адной з галоўных падставаў, чаму недзе ў глыбіні маёй душы нарадзілася рашэнне, што ўжо не варта болей займацца навуковай фантастыкай, што я павінен абмежавацца руплівым чытаннем спецыяльных часопісаў. Лічу за лепшае навучацца, а не павучаць.

## 8

Некалькі гадоў таму мяне наведала спадарыня Маар, прафесар псіхалогіі з Германіі, у сувязі з праектам так званай «Akademie des XXI Jahrhundrets», які фінансаваў фонд Бурды – мільярдэра са сферы моды.

Заканчэнне на стар. 15

Аўгуст СТРЫНДБЭРГ

# Апошні стрэл



Аўгуст Стрындбэрг (1849-1912) - выдатны шведскі драматург, пісьменнік, паэт. Аўтар п'есаў «Густаў Ваза», «Вялікдзень», «Прыяцелі», «Бацька», «Паненка Юлія», кніг прозы «Пекла», «Самотны», зборнікаў навэл «Новая дзяржава», «Сагі» (беларускі пераклад - 1999 г.), «Утопіі ў рэчаіснасці», нізак вершаў. Навэла «Апошні стрэл» - са зборніка «Шведскія лёсы і прыгоды», выдадзенага ўпершыню ў 1882-83 гг.

Канфлікт 1618-1648 гадоў гісторыкі называюць першай агульнаеўрапейскай і апошняй вялікай рэлігійнай вайной. Сапраўды, Трыццацігадовая вайна пачыналася як міжканфесійная драма. Шведы высаджваліся на нямецкім беразе і распаўсюджвалі ўлёткі ды памфлеты з гравюрнымі выявамі свайго геральдычнага льва, які прыйшоў на дапамогу пратэстанцкім княствам. Але неўзабаве франты і хаўрусы змяшаліся, настала вайна ўсіх супраць усіх, бесперапынная серыя рабункаў, забойстваў і разбурэнняў пераўтварыла цэлыя рэгіёны Еўропы ў пустыню. Выпакутаваны Вестфальскі мір 1648 года ўгрунтаваў цывілізаваную традыцыю мірнага суіснавання дзяржаваў, рэлігійнай талерантнасці і дагэтуль служыць станоўчым урокам еўрапейскага пагаднення.

**Валеры БУЙВАЛ**

У адзін з апошніх дзён кастрычніка 1648 года на вуліцах невялікага горада Ліндаў на возеры Бодэн запанаваў вялікі вэрхал. Горад гэты – швабская Венецыя, што плыла на трох пагорках побач з баварскім берагам – даўно быў абложаны шведскім фельдмаршалам Урангелем, які ў апошнія гады дзейнічаў разам з французамі, а цяпер стаяў ва ўмацаваным лагеры на вышынях каля мястэчка Эшах. Мірныя перамовы, што цягнуліся ўжо чатыры гады, не далі нават перамір'я, а зусім нядаўна Кёнігсмарк штурмаваў Прагу. Гэтыя падзеі, аднак, прыспешылі перамовы ў Аснабруку і Мюнстэры, да Швабіі дакаціліся чуткі пра блізкі мір.

Ліндаў перажыў усе жахі аблогі на працягу пару месяцаў. А пасля абеду ў дзень, калі раптам спыніліся шматдзённыя бамбардоўкі з Эшаха, бургамістр вярнуўся з патаемнай паездкі ў Брэгэнц. Ён адразу пайшоў у заезд Пад Каронай, таму што ратуша была разбурана. Хацеў паглядзець, ці не сустрэнецца хто са знаёмых, не заняты службай на мурах горада. У залах не было ні душы, і ў прыгнечаным стане ён выйшаў на тэрасу, каб паглядзець, што робяць шведы на тым беразе.

Бодэнскае возера было спакойнае, адлюстроўвала снежныя вершаліны грады Хоэ Сэнці з боку Санкт-Галена. На захадзе віднелася блакітная дымка шварцвальдскага лесу, падобная на вечаровыя воблакі, а на ўсходзе плынь Рэйна паміж Форальбэргам і Рэціконам. Ягоныя гліняста жоўтыя хвалі зліваліся ўрэшце з сіне-зялёнымі водамі возера. Але бургамістру было не да красы прыроды. За апошнія восем дзён ён нацярпеўся голаду і холаду, а больш за месяц не выходзіў з бою. Ён убачыў толькі, як віруе народ на набярэжнай. Там лагодныя баварцы змяшаліся ў гурму з крыклівымі вюртэмбэргцамі і жвавымі бадэнцамі. Ён мог бачыць, як народ пасунуўся да францысканскага касцёла па харчовую дапамогу. Але ўнізе на набярэжнай ён заўважыў групу людзей, што стаяла і глядзела на возера, дзе некалькі бочак павольна плылі па хвалях. Людзі з імпэтам кінуліся выцягваць іх на бераг бусакамі і канатамі.

«Што гэта там такое, людцы?» – крыкнуў бургамістр з тэрасы.

«Падарункі ад швейцарскіх сяброў з Санкт-Галена!» – адказаў нейкі голас.

«Мабыць, віно ці медавуха. Яны доўга чакалі заходняга ветру, каб падплыць з боку Рамансгорна», – азваўся яшчэ нехта.

Бургамістр пайшоў з тэрасы ў залу, сеў там і пачаў чакаць, чым скончыцца справа на набярэжнай.

На знешне няўзрушаным твары рослага баварца чыталіся заклапочанасць, сум і горыч. Вялікія кулакі, абапертыя на дубовы стол, час ад часу сціскаліся, нібыта ён вагаўся – выпускаць з іх нешта ці трымаць моцна. Ягоныя ногі, што, здавалася, вось-вось разарвуць халявы высокіх ботаў, тупалі па непрыбранай падлозе так, што пыл стаяў слупом, як дым з файкі. Ён не мог уседзець спакойна. Раптам ён шпурнуў свой меч на падлогу, дастаў з тытунёвай тэчкі з сярэбраным гарадскім гербам пару вялікіх ключоў і пачаў круціць імі ў паветры, нібыта спрабуючы зачыніць нябачныя дзверы, каб ніхто больш не мог іх адчыніць. Потым прыціснуў да вуснаў адзін з ключоў і прасвісцеў сігнал трывогі, якому добра навучыўся за доўгі час аблогі, адбітых атак і няўдалых вылазак.

Пачуліся громкія крокі на лесвіцы і бразгат зброі. Бургамістр кінуў сьвісцець, зашпіліў гузік і перасунуў тэчку на рэмні назад. Потым заняў позу, нібыта збіраўся абараняцца, мабыць, ведаючы, хто набліжаўся да дзвярэй.

«Пахвалёны, пане камендант», – павітаў ён афіцэра, што ўвайшоў і кінуў на лаву памяты капялюш з абпаленым пяром.

«Рады бачыць Вас зноў, пане бургамістр», – адказаў маёр і сеў за стол насупраць.

Нейкі час было ціха, нібыта абодва набівалі сваю зброю, перш чым даць залп. Урэшце маёр парушыў маўчанне пытаннем у лоб:

«Што сказалі ў Брэгэнцы?»

«Не дадуць ніводнага мяшка мукі, ні жмені крупы, пакуль горад не выдасць ключы! Так сказалі ў Брэгэнцы».

«Вось як?»

«Вось як», – паўтарыў бургамістр, пагрозліва пазіраючы.

«А Вы не хочаце выдаваць ключы?»

«Не, тысячу разоў не, мільён разоў не!» – закрычаў бургамістр і ўскочыў з-за стала, кроў ударыла яму ў твар.

«А ведаеце, – казаў далей маёр, – што мёртвыя целы атручваюць горад з тае пары, як шведы захапілі могілкі ў Эшаху?»

«Ведаю!»

«Ведаеце, што ў горадзе з'елі ўсіх коней і сабак?»

«Ведаю! Я ведаю таксама, што майго Пакана, майго вернага спадарожніка апошніх дваццаці гадоў з часу, як я згубіў жонку і дзяцей, забілі першага!»

«Ведаеце, што вада ў возеры паднялася і заліла сутарэнні? Так што людзям няма дзе хавацца, калі зноў пачнуцца бамбардоўкі».

«Ведаю!» – адказаў бургамістр.

«Ведаеце, што саспеў наш вінаград на прылеглых пагорках на Хоербэргу, каля Шахтэна, каля Айхбюля, пара збіраць ураджай? А шведы з французамі ўжо накінуліся на вінаграднікі».

«Ведаю! Але ці ведаеце Вы, што мір можа быць заключаны ўжо сёння? Можа ён ужо заключаны, і мы можам выратаваць наш гонар, калі яшчэ на дзень адцягнем капітуляцыю».

«Яшчэ адзін дзень! – паўтарыў маёр. – Яшчэ адзін дзень! Мы казалі гэта ўсе тры месяцы, пакуль паміралі нашы дзеці. Вы, мабыць, не ведаеце, што скончыўся хлеб, што людзі паелі мох на дахах і лісце на дрэвах, салому ў стайнях, злізалі рэшткі малака ў пустых бочках, пілі сваю..! Такія вось справы, а дзеці крычаць і просяць малака».

«Дзеці! Не кажыце мне пра дзяцей. Маю адзіную дачку згвалцілі і забілі на вачах у яе маці! Тады я маліў Вас дапамагчы, але дарэмна. У Вас тады ўзніклі нейкія непераадольныя перашкоды. Да д'ябла дзяцей! Чаму ж вы не вывезлі іх па возеры, пакуль шведы не пусцілі свае паромы?»

«Вы – дзікая жывёліна, бургамістр, а не чалавек. Вам, мабыць, хацелася б убачыць, як іх будуць тапіць у мяшках альбо есьці, як гэта было ў Багеміі, калі там гаспадарыў Фрыдланд!»

«Так, мы ўсе пераўтварыліся ў дзікіх звяроў за гэтыя трыццаць гадоў забойстваў і агню, крадзяжоў і блудадзейства. Яны маглі называць гэта вайной, пакуль шведскі кароль быў жывы і камандаваў жаўнерамі. Але потым яны пераўтварыліся ў забойцаў, бандзюг і іракезаў, што нішчаць усё абы нішчыць. Гуны, готы і вандалы, якія разбураюць таму, што не могуць стварыць нічога...»

Крык на вуліцы не даў маёру адказаць, абодва спорштыкі кінуліся на тэрасу. Людзі збіліся ў кучу каля выцягнутых на бераг бочак. Выбілі коркі так, што змесціва пацякло па вуліцы.

«Што ў вас там?» – крыкнуў маёр.

«Э-э, гэта толькі малако, што прыслалі сквапныя швейцарцы замест віна», – адказалі знізу.

З'явілася нейкая жанчына з дзіцем на руках. Калі яна ўбачыла белы струмок, што цёк па вуліцы, то жудасна загаласіла і паклала дзіця на брук, каб тое магло піць. Неўзабаве сабралася шмат мацерак, прывабленых крыкамі. Дзеці, як прагныя парсючкі, сквапна хапаліся за камяні бруку, нібыта тыя былі мяккімі грудзямі і смакталі малако. А мацеркі тым часам праклінаді паганых мужыкоў, што думалі толькі пра сябе.

«Пане бургамістр! – зноў пачаў маёр, усхваляваны брыдкай сцэнай. – Пойдземце на дах ды паглядзім, што там робяць шведы. А ўжо потым высветлім нашы адносіны! Як Вы бачыце, рассыпаюцца ўсе сувязі. Адзін хапае тое, што другі ўжо не можа ўтрымаць. Ёсць пагроза, што распадуцца сем'і, усё раскоціцца дагары нагамі. У любы момант можа пачацца бунт...»

Бургамістр не слухаў яго. Ён падняўся па вінтавой лесвіцы, потым праз шчыліну паміж слупамі пралез па ўступах фасада. Ускараскаўся на франтон, увенчаны флагштокам, да якога была прымацавана падзорная труба. Унізе раскінуўся разбураны горад. Не было бачна ніводнага цэлага даху; ніводнага дрэва ў старых прысадах – усе пайшлі на ежу і дровы. З боку набярэжнай усе дамы былі знішчаны, усе сады высечаны, каб здабыць матэрыял для ўмацаванняў. А па вуліцах соваліся абарваныя, згаладнелыя, брудныя і здзічэлыя людзі. Аднак, было бачна, што яны накіроўваюцца да заезду Пад Каронай, дзе ўжо сабраўся натоўп.

Бургамістр прыклаў вока да трубы, скіраванай на далёкі бераг. Там віднеліся пагоркі з белымі сялянскімі хатамі пад спаленымі дахамі, а навокал разрабаваныя яблыневыя сады і вінаграднікі. Углыбі было бачна Эшах з шведскім галоўным станам. Пасярод сіне-жоўтых сцяжкоў быў прыкметны незвычайны рух. Кнехты ўвіхаліся каля гармат. Бургамістр паспеў пазнаёміцца з імі за час доўгай аблогі. Так, ён нават даў імёны кожнаму з найгразнейшых монстраў першай лініі.

Доўгі бамбіза з чырвонай медзі нядаўна разбіў вітраж у гарадскім касцёле – ён называў яго Чырвоным Сабакам. Злева была магутная марціра, што атрымала імя Гракатун, проста шпігат, калі пачынала вырыгваць зарады. Маткай Д'ябла ён назваў трэцюю, мабыць, адлітую з шведскай сталі паводле праекта самога караля. І гэтак далей. Па-за валам на садовай тэрасе ён убачыў фельдмаршала, што сядзеў разам з афіцэрамі і піў мясцовае віно, іхняе віно, што было вырашчана і выціснута імі. А яны, такія дурныя, пакінулі яго ў склепах на тым беразе. За шклянкай і папыхваючы файкамі высокія паны разглядалі нейкі чарцёж, здаецца, не карту. Бургамістр успомніў чутку, што Урангель хацеў перавезці баварскі замак Ашафэнбург дадому, у свой маёнтак над возерам у Швецыі. А калі гэта не ўдалося, загадаў архітэктару зрабіць чарцяжы будынка, з якога ён ужо павывозіў усю мэблю, абсталяванне і экзатычныя прадметы.

Убачыўшы віно і курцоў, бургамістр на імгненне перажыў даўно забытыя прыхамаці. Потым яго ахапіла даўняя нянавісць і злоба. Для тых, каму бракавала ежы і пітва, хто згубіў блізкіх і забыўся, што такое мір, заставаўся адно гонар. І ён пакляўся над трупам сваёй дачкі, якую сам забіў, каб яна не нарадзіла дзяцей д'ябла і не дала д'яблава семя (гэтую таямніцу ён не мог згадваць як аргумент сваёй упартасці), што не выдасць ключы ад горада, пакуль жывы.

Ён убачыў, як з Чырвонага Сабакі вырваўся парахавы дым, пачуў свіст над сваёй галавой, а потым грукат выбуху на набярэжнай, адкуль пачуліся крыкі людзей.

«Ключы, бургамістр, альбо ўсім нам канец!» – закрычаў маёр з драбіны.

«На пазіцыю, пане маёр, на валы, альбо будзеце павешаны!» – адказаў бургамістр.

«Ключы сюды! Альбо дабярэмся да Вас і самі адбярэм!» – гарланіў маёр.

«Хадзіце ды вазьміце!»

Раптам у акенцы на даху з'явілася некалькі галоваў, усчаўся крык, каб ён аддаў ключы.

«Адыдзіце з даху; яны цаляюць па нас!» – закрычаў бургамістр людзям, што пачалі караскацца па мурах, каб здзейсніць сваю пагрозу.

Праз імгненне флагшток прапаў, раструшчаны, як сухое дрэва. Паляцелі трэскі ад удара ядра, якое прабіла дах.

Бургамістра скаланула і ён упаў бы, каб не абаперся на свой вялікі меч.

Ён выпрастаўся і ўстаў на даху, як статуя з талькавага каменя на саборы. Людзі закрычалі ад захаплення мужнасцю бургамістра. Яны ўсё ж пабаяліся паўтарыць напад на таго, хто валодаў ключамі ад горада. А без іх фармальная здача горада не магла адбыцца.

Але з дапамогай некалькіх незадаволеных капітан рашыўся напасць на неўступлівага бургамістра. Ён палез па небяспечнай драбіне, выцягнуў сваю шпагу і запатрабаваў ад бургамістра сысці альбо абараняцца.

Але скора стала ясна, што пазіцыя бургамістра непрыступная. Пераканаўшыся, што немагчыма ўгаварыць яго здацца, маёр звярнуўся да масы народу і спытаў людзей тройчы запар, ці яны даюць яму права разбіць гарадскую браму і вывесіць белы сцяг.

Адказам на ягоны запыт быў аглушальны крык згоды. Ён спусціўся ўніз і разам з натоўпам падаўся на валы.

Бургамістр застаўся сам. Ён разумеў, што не засталося ніякой надзеі на выратаванне горада. Ён, здавалася, бездапаможна асунуўся. І раптам выпрастаўся зноў, прыняўшы рашэнне. Дрыготкімі рукамі дастаў з тэчкі вялікія ключы, паражагнаўся і шпурнуў іх у возера так далёка, наколькі стала моцы. Калі яны зніклі ў вадзе, ён укленчыў і склаў рукі ў доўгай, ціхай малітве.

У гэтае імгненне ён хацеў бы аглохнуць. Але звяртаючыся да Бога і Святой Дзевы, ён усё ж чуў удары сякеры па браме, праз якую вораг павінен быў увайсці ў горад, каб рабаваць і блюзнерыць, вешаць і паліць.

Нейкі час ён ціха маліўся і раптам заўважыў, што над горадам запанавала ціша, а кананада скончылася. З боку валоў пачуўся слабы гул, нібыта галасы людзей, што гаварылі ўсе адразу. Гул нарастаў і ператварыўся ў рык, а потым адразу ж у крык радасці.

Ён падняўся з кален і ўбачыў белы сцяг, што лунаў над шведскім станам. Потым пачуў гук трубаў і звон літаўраў, з валоў Ліндаў адказалі тым жа. Зноў пачуліся ўдары сякеры па браме. Ад шведскага лагера адплыў чоўн. На беразе іграла палкавая музыка. Па вуліцах горада пракаціўся крык. Спачатку бязладны, як грукат хваляў аб прыбярэжныя скалы, гром без прычыны, крык без сэнсу. Але ён быў усё бліжэй, і цяпер можна было адрозніць апошняе слова «канец». Немагчыма было разабрацца, ці гэта была капітуляцыя, ці нешта іншае.

Урэшце крык стаў больш выразным, калі маса народу рынула па набярэжнай, махаючы капялюшамі і кучомкамі. Усе крычалі свайму мужнаму бургамістру: Мір заключаны!

ххх

Увечары ў францысканскім касцёле спявалі Te Deum laudamus! А гараджане ўпіваліся віном з бочак, прывезеных з прыбярэжных вёсак.

**Пераклаў са шведскай**
**Валеры БУЙВАЛ**

# Зімовы сон

Зямлю зацярушыў снег, які напэўна ўжо застанецца да вясны. Для большасці перамены, звязаныя з надвор'ем, – звычайная справа. Але ёсць тыя, для якіх звычайны зімовы пейзаж – бясконцая крыніца натхнення.

Усе бачаць навакольны свет аднолькава. Белае – зімой, зялёнае – улетку, жоўтае – восенню. Пейзаж – тое, як бачыць свет мастак. З мастаком можна пагаджацца ці не, але тую прыгажосць, з якой мы сутыкаемся штодня і не заўважаем, часта нам адкрываюць іх карціны. Дар пейзажыста – перанесці на палатно краявіды, дзе яны са звычайных і звыклых ператвараюцца ў надзвычай натхнёныя і ўзнёслыя.



Прырода ў любую пару як разгорнутая кніга. Яе сюжэт – час, мова – музыка пачуццяў. Для тых, хто ўмее чытаць, адкрываецца бясконцая магчымасць пазнаваць сябе і свет. Для нямелкіх душой – яна крыніца вобразаў і гісторый. Такі талент – знайсці і паказаць існасць стварэння меў беларускі мастак Вітольд Бялыніцкі-Біруля. Нарадзіўся майстар у вёсцы Крынкі, што каля Бялынічаў, у 1872 годзе. Уся яго творчасць зліваецца ў адзін бясконцы пейзаж родных мясцінаў. Яго фарбы невыразныя. Здаецца, ён і не шукаў складанага каларыту. Але звычайны беларускі краявід у яго карцінах – гэта песня, дзе сола належыць тонкім дрэўцам, узгоркам і снегу.

Творчасці мастака прысвечаны кут у другой залі Нацыянальнага мастацкага музея. На гэту карціну немагчыма не звярнуць увагі. У тумане, на ўзгорку, пад белым снегам спіць капліца. Праз цяжкае неба прарываюцца няяркія сонечныя промні. Кароткі зімовы дзень праважаюць яліна і дрэвы. Прыгадваеш, што такое ці нешта падобнае ўжо неаднаразова недзе бачылася. Вітольд Каэтанавіч назваў твор «Блакітная капліца», у экспазіцыі музея – «Зімовы сон», створаны ў 1911 годзе. З тых часоў беларускі пейзаж амаль не змяніўся. А значыць, захаваўся шанец спыніцца, аддзяліцца ад штодзённай мітусні і разгледзець хараство, якое натхніла мастака. А яшчэ ёсць магчымасць адказаць сабе на пытанне, чаму так грэе сэрца халодны «зімовы сон» майстра?

Для гараджан зіма прыносіць дадатковыя нязручнасці. Боты раз'ядаюць соль і пясок, якім пасыпаюць ходнікі. Але недзе там, на зямлі, не сапсаванай горадам, далёка ад тлуму ў цішы спіць лес і капліца на ўзгорку. Увечары за шмат кіламетраў бачныя праменьчыкі з вокнаў далёкай вёскі. За белым покрывам спее новае жыццё...

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Мінск імкнецца ў паветра

У цэнтры беларускай сталіцы могуць з'явіцца маштабныя аб'екты, якія, на думку праектантаў, паслужаць яго прыгажосці і перакінуць масток у будучыню. Паветраная галерэя злучыць гандлёвы цэнтр «Люстэрка» з купалам Камароўскага рынку. У перспектыве па сістэме паветраных пераходаў можна будзе патрапіць з Камароўскага рынку ў любы з паркінгаў, якія да яго прымыкаюць, а таксама ў «Дом мэблі».

Насупраць Гандлёвага дома «На Нямізе» насуперак пратэстам усё ж будзе пабудаваны шматпавярховы паркінг, і яго злучаць з магазінам паветранай галерэяй.

Самыя грандыёзныя змены адбудуцца ў двары ГУМа. Тут на месцы дзіцячага сада і службовых памяшканняў плануюць стварыць культурна-забаўляльны комплекс з сапраўдным аквапаркам. Тэрміны ўзвядзення гэтых амбіцыёзных праектаў яшчэ не акрэслены, але самі праекты зацверджаны.

Наколькі ўсе гэтыя навінкі патрэбныя гораду – пытанне асобнае.

# Небяспечная спадчына

У Беларусі неабходна правесці скразное размініраванне болей за 300 кв. кіламетраў тэрыторыі. Пра гэта заявіў начальнік упраўлення інжынерных войскаў Генеральнага штаба Узброеных сілаў краіны палкоўнік Сяргей Лучына. У сваім выступе на 2-м міжнародным семінары па пытаннях здзяйснення Атаўскай канвенцыі аб забароне супрацьпяхотных мін, які прайшоў у Мінску, палкоўнік Лучына адзначыў, што гэтая лічба атрымана на падставе заявак мясцовых органаў улады.

Асабліва вострай з'яўляецца сітуацыя ў Віцебскай вобласці, дзе неабходна праверыць 191 кв кіламетр. Апроч таго, небяспекай пагражаюць тэрыторыі былых ваенных авіяцыйных палігонаў «Дубна» ў Магілёўскай вобласці плошчай 30,5 кв. кіламетраў, «Рэчыца» ў Гомельскай вобласці плошчай 30,3 кв. кіламетра і палігон недалёка ад Мінска плошчай 10,2 кв. кіламетра.

Усяго, згодна з інфармацыяй начальніка ўпраўлення інжынерных войскаў, з 1944 па 2003 год на тэрыторыі Беларусі знойдзена і абясшкоджана амаль 27 мільёнаў адзінак боепрыпасаў, якія не разарваліся. За гэты ж перыяд ад падрываў на іх пацярпелі 6.014 чалавек, у тым ліку 2.627 – загінулі.

# Старажытны Полацк і «Залатое кальцо Расеі»

У Полацку адбылося выязное паседжанне камісіі па сацыяльнай палітыцы, навуцы, культуры і гуманітарных пытаннях Парламенцкага сходу Саюзу Беларусі і Расеі. Яго ўдзельнікі заслухалі комплексную доўгатэрміновую праграму развіцця Полацка як культурна-турыстычнага цэнтру. Праграма была распрацавана мясцовымі ўладамі і прадугледжвае правядзенне ў 2004–15 гадах рэстаўрацыйных ды археалагічных працаў, адкрыцця новых музеяў ды помнікаў, эстэтызацыі гарадскога асяроддзя, развіцця сістэмы аховы здароўя, установаў культуры, спорту і жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Для рэалізацыі такіх планаў патрэбныя вялікія грашовыя сродкі. Адной з магчымых крыніцаў фінансавання праекту Полацкі гарвыканкам разглядае саюзны бюджэт, гэтым і тлумачыцца правядзенне выязнога паседжання Парламенцкага сходу ў старажытнай сталіцы Полацкай зямлі.

Выступаючы перад яго ўдзельнікамі прадстаўнік Расеі, адказны сакратар Парламенцкага сходу Уладзімір Аксёнаў на словах падтрымаў праграму і не выключыў магчымасці фінансавання асобных праектаў з саюзнага бюджэту, Адначасова У.Аксёнаў прапанаваўшы ўключыць Полацк у турыстычны маршрут «Залатое кальцо», які ахоплівае старажытныя гарады Паўночнай Расеі. Наколькі тады застанецца Полацк для турыстаў беларускім – пытанне.

# Год Сіняй Малпы

Хутка закончыцца год Казы і, згодна з усходнім календаром, яго зменіць год Сіняй Малпы. Афіцыйна ён пачнецца 4 лютага, але па нашай завядзёнцы сустракаць яго будуць і на 31 снежня (і 14 студзеня, ну а ўначы 4 лютага, зразумела, ужо з поўным правам.).

Хоць малпа і не мае рогаў і не можа бадануць падобна Казе, усё роўна спакою надыходзячы год не гарантуе, бо, як усе ведаюць па ўласных назіраннях у заапарку, Малпа на месцы спакойна не сядзіць, а ўсё носіцца, скача, шукае сябе цікавага занятку і прыгод. Аднак калі не паддавацца на гэту знешнюю хаатычнасць характару Сіняй Малпы, дык год можа стаць шчаслівым – магчыма, прыдзе новая ці чарговая любоў, лёс пашле вам нечаканыя вялікія грошы ці начальства прасуне высока наверх па службовай лесвіцы. Не дзівіцеся, калі і любоў, і грошы, і высокая пасада гэтак жа хутка знікнуць, як і з'явіліся – Малпа любіць жартаваць. Паколькі Сіняя Малпа лічыцца істотай разумнай, то гэты год можа даць плён тым, хто нешта робіць у галіне філасофіі, гісторыі, філалогіі ды архітэктуры.

Каб годна сустрэць год Сіняй Малпы, лепш мець адзенне чыстага сіняга ці зялёнага колеру, можна таксама апрануць сукенку ці касцюм жоўта-карычневых таноў. З жаночых упрыгожанняў не варта карыстацца пластмасавымі падробкамі, а таксама браслетамі ды іншымі вырабамі з кракадзілавай ці змяінай скуры, бо гэтыя істоты – ворагі Малпы, узгадайце мультфільм «Маўглі». А вось золата, брыльянты, сапфіры ёй па сэрцы. Густ у яе добры – яна любіць самае лепшае. Бо яна яго дастойная.

# Паўтарэнне прамоўленага

Пачатак на стар. 135

Размова кранала даследаванні будучыні. Яна лічыла, што я з'яўляюся буйным спецыялістам у гэтай сферы, бо пісаў у «Дыялогах» аб перасадцы мозгу і ўжыўленні ў яго чыпаў. Я абараняўся, тлумачачы, што зусім не прытрымліваюся тых поглядаў, госця ж пераконвала мяне, што мае прароцтвы напэўна збудуцца, і я не павінен адмаўляцца ад таго, што сам напісаў.

Тым часам павелічэнне вытворчасці камп'ютэраў набыло ашаламляльнае паскарэнне. Колькасць бітаў, якія можна апрацоўваць за секунду, пастаянна павялічваецца: спачатку былі мегабіты, і адсюль мая «Мегабітавая бомба», затым – гігабіты, а цяпер ужо – фема- і тэрабіты. Дасюль усе асноўныя элементы выраблялі з крэмніевых пласцінак, на якіх літаграфічна прамалёўвалі лагічныя контуры, пакуль не дайшлі да мяжы магчымага, якая складае некалькі дзесяткаў нанаметраў паміж лініямі – гэта ўжо стала непераадольнай сцяной.

Але цяпер узнікла новая школа, прадстаўнікі якой вырашылі дзейнічаць зусім інакш, а менавіта: яны працуюць над сістэмамі, якія самапамнажаюцца і самаканструіруюцца.

Гэты працэс неабходна толькі пачаць, задаць пэўнае злучэнне, а з яго ў далейшым узнікне сістэма, у якой асобныя малекулы будуць функцыянаваць як элементы вылічальнай прылады. У гэтыя даследаванні ўжо ўкладзена добрая пара дзесяткаў мільярдаў даляраў, хоць яны і знаходзяцца яшчэ на пачатковым этапе. Навука выходзіць, аднак, за межы працягласці жыцця індывіда і нават цэлага пакалення.

**9**

Апаснасцяў, якія стаяць перад нашай цывілізацыяй, даволі шмат. Пра некаторыя з іх я пісаў у вышэйзгаданым томе бюраканскай канферэнцыі. Там я адзначаў, што мы, людзі, нашай дзейнасцю змяняем некаторыя пастаянныя параметры планеты ў пераменныя. Я праілюстраваў бы гэта на прыкладзе парніковага эфекту ці гібелі відаў, якая азначае скарачэнне генафонду на ўсёй зямной кулі. Гэта, аднак, узаемазлучаныя працэсы: змены клімату, да якіх мы датычныя, і знікненне відаў выклікаюць, напрыклад, разрыў харчовых ланцугоў. Раней я меркаваў, што гэтак названыя мной «тэхналогіі другога парадку» будуць скарачаць адмоўныя наступствы знікнення ў нас з-пад ног некаторых пастаянных параметраў, якія мы засталі на Зямлі, калі нас, людзей, было яшчэ няшмат. Сёння я бачу, што няма ніводнага спосабу рэзультатыўна затрымаць развіццё нашай цывілізацыі. Некаторыя нават пішуць, што гэтая цывілізацыя мае тэндэнцыю да самазабойства. Папа Рымскі гаворыць аб цывілізацыі смерці. Не хацеў бы зазіраць так далёка, хоць наша цывілізацыя, напэўна, з'яўляецца смяротнай. Мы не будзем жыць на Зямлі вечна, гэта немагчыма з розных пунктаў гледжання, пра што, між іншым, мы даўно ведаем ад астрафізікаў.

Аднолькава невядомыя як будучыня жыцця на Зямлі, так і яе мінулае. Аднак мы ведаем, што самі гэтаму жыццю пагражаем і вельмі мала аб ім клапоцімся. У нас ёсць такая арганізацыя дзівакоў, маладых эколагаў, якія выдаюць часопіс «Дзікае жыццё». Паколькі я публічна выступіў як прыхільнік кармлення вераб'ёў зімой, а ў дадатак напісаў, што пасля таго, як прачытаў кнігу «Жыццё павука», ніводзін павук у маім доме не павінен хвалявацца за свой лёс, яны прылічылі мяне да групы сваіх прыхільнікаў і ўзялі ў мяне інтэрв'ю. Гэта адступленне, але фактам ёсць тое, што жыццю трэба садзейнічаць. Мы павінны з усім багажом дасягненняў прымаць будучыню, нам трэба трымацца правілаў, абавязковых, напрыклад, пры рэгуляцыі рэчак. Рэкі нельга бетаніраваць, бо гэта пагражае раптоўнай паводкай, і нельга дазваляць, каб яны цяклі, утвараючы балоты. Як усюды і ва ўсім, пажадана нейкая сярэдняўзважаная стратэгія.

Да прыняцця і засваення новых тэхналогій, асабліва біятэхналогіі і нанатэхналогіі, а таксама вылічальных магутнасцяў камп'ютэраў, якія вымалёўваюцца на даляглядзе, чалавецтва абсалютна не падрыхтавана ў сувязі з палітычным падзелам і культурным супрацьстаяннем. Габрэі і арабы маюць амаль аднолькавы набор генаў, і супярэчнасці паміж імі не могуць быць зведзены да біялогіі, аднак ізраільска-арабскі канфлікт пастаянна пагражае крывавым выбухам. Знакамітыя пісьменнікі ўяўлялі ўсю сілу чалавечага шаленства, яны ведалі, што ў гісторыі чалавецтва Праметэй ідзе пад руку з Калібанам.

У мае юнацкія гады, калі мы куплялі білет у кіно, можна было прыйсці на сеанс у любую хвіліну, нават у сярэдзіне фільма. Такімі ж з'яўляюцца і нашыя ўваход і выхад на сцэне гісторыі. Ні першае, ні другое не залежыць ад нашай волі ці жадання. Але чалавецтва як супольнасць існуе і будзе існаваць, спадзяюся, яшчэ вельмі працяглы час.

*«Tygodnik powszechny», №34,2001*

# Адлюстраванні гурта «Ulis»

Памятаю, як у далёкім ужо 1991 годзе газета «Комсомольская правда» ўпершыню апублікавала карту, на якой былі зафіксаваныя лідэры рок-рухаў на ўсёй постсавецкай прасторы. І ўжо тады гурт «Ulis» на ёй прадстаўляў сапраўдны беларускі рок-н-рол. «Улісаўцы» неверагодным чынам апраўдвалі сваю назву, узятую пад уплывам творчасці ірландскага пісьменніка Дж. Джойса, чый раман выйшаў па-беларуску на Беласточчыне ў перакладзе Я.Максімюка. Музыкі за адносна кароткі час аб'ехалі з канцэртамі палову Еўропы (Польшча, Германія, Вялікабрытанія, Эстонія, Расія), выдалі некалькі альбомаў, у тым ліку і класічныя ў беларускай рок-музыцы – «Чужаніца», «Краіна доўгай белай хмары», «Танцы на даху», «Падарожжа»...



Зразумела, што не толькі назва перадвызначыла гурту «Ulis» лёс заўзятых падарожнікаў. Сама музычная канцэпцыя гурта была вельмі блізкая еўрапейскім музычным традыцыям. І гэта выклікала жаданне бліжэй пазнаёміцца з беларускай мадэллю еўрапейскай традыцыі ў рок-музыцы. Упэўнены, што слухачы добра памятаюць «улісаўскія» песні «Пляц Францыска», «Брама жыцця», «Калі імперыя знікне», «Радыё Свабода» і згодзяцца з гэтай высновай...

Што ж тычыцца гурта «Ulis» як творчага калектыву, то ён значна змяніўся: з квартэту ператварыўся ў трыо. Але, як і тады, на пачатку творчага шляху, лідэрам гурта, аўтарам музыкі, тэкстаў з'яўляецца гітарыст Слава Корань.

За 15 год існавання каманды запісана і выдадзена 9 сольных альбомаў. Апошняя праца – кампакт-дыск «Lusterka», упэўнены, хутка стане аб'ектам уважлівага аналізу крытыкі і слухачоў. У ім сканцэнтраваны многія «улісаўскія» музычныя і акустычныя напрацоўкі апошніх гадоў. Акрамя гэтага, стылістычна альбом гурта «Ulis» усё больш схіляецца да самых сучасных рокнакірункаў – hardcore, crossover, industrial. І, у той жа час, у тэкстах альбому праяўляецца імкненне музыкаў да філасофскіх абагульненняў, сур'ёзных разважанняў над з'явамі жыцця.

Перад тым, як пачнецца афіцыйны рэліз альбому «Lusterka», наш карэспандэнт сустрэўся з кіраўніком гурта «Ulis» і папрасіў вядомага беларускага рок-музыканта С.Кораня адказаць на некаторыя пытанні. Першае з іх тычылася таго, што з пятнаццацігадовай гісторыіі калектыву музыка ўспамінае з найбольшым задавальненнем? Вось што распавёў **Слава Корань**:

– З асаблівай цеплынёй заўсёды ўспамінаю сустрэчы з нашымі сябрамі з Германіі (гурт «Frantic club») і Вялікабрытаніі (гурт «Snatch»). У Германіі мы выступалі кожны год, а ў Лондане мы гастралявалі толькі аднойчы: правялі разам два тыдні - давалі канцэрты ў клубах і пабах, выступалі на радыё BBS, падарылі свае дыскі кіраўніцтву завода ўзмацняльнікаў «Marshall». Такія ж канцэрты мы арганізоўвалі ў Мінску, куды запрашалі нашых нямецкіх ды англійскіх сяброў.

З асаблівым пачуццём успамінаю нашу першую паездку ў Германію і канцэрт у клубе горада Аўсбург. Клуб быў поўнасцю запоўнены, мы выступалі перад слухачамі з вялікім поспехам. І мне здавалася, што ўсё гэта нерэальна, адбываецца не са мной. Калі б мне сказалі, што гурт «Ulis» праз некаторы час будзе граць на адной сцэне з «Jetro Tull», «The Stranglers», «Kaoma», «Nitzer EBB», «Marillion» альбо «Holy Joy», то я, хутчэй бы, не паверыў гэтым словам! Але сёння гэта гісторыя нашага гурта. Акрамя гэтага, мы былі ўдзельнікамі шматлікіх фестываляў, ад маскоўскага «Сырка» да фестываляў у Эстоніі і ў Сопаце.

**–Як табе, музыку старой школы, удаецца «ўлівацца» ў новыя стылістычныя рамкі, асвойваць новае гучанне, якое зараз дамінуе ў рок-музыцы?**

– Справа ў тым, што музыкі гурта «Ulis» і я ад пачатку не абмяжоўвалі сябе стылявымі рамкамі і не імкнуліся граць адну і тую ж музыку. Атрымалася так, што нашыя музычныя ідэі былі сугучныя еўрапейскім тэндэнцыям у рок-музыцы. Мы дабаўлялі свае беларускія матывы, сваё разуменне сучаснай музыкі, і з гэтага выкрышталізаваўся стыль гурта – «музычная вандроўка». Мы заўсёды эксперыментуем, змяняемся ў музычным плане. Называецца ўсё гэта independents – незалежная музыка, выканаўцы якой не прытрымліваюцца нейкага аднойчы вызначанага стылю. Таму нам блізкі і хард-рок, і hardcore, і шмат чаго іншага з сучаснага музычнага арсеналу.

**– Ваш новы альбом «Lusterka» ужо з'явіўся на паліцах музычных крамаў. Некалькі словаў пра гісторыю стварэння гэтага кампакт-дыска...**

– Гісторыю альбома распавесці даволі складана. Фактычна гэта гісторыя асабістых перажыванняў, эмоцый, пачуццяў, а не храналогія падзеяў – нешта больш абстрактнае, чымсьці проста фіксацыя. Бо «люстэрка» асацыіруецца з нейкім адлюстраваннем, правільным, альбо скажоным, а таксама суадносіцца з такімі блізкімі гурту «Ulis» імёнамі, як Уліс, Адысей, Джэймс Джойс...

**– Слава, як ты ствараеш тэксты сваіх песень?**

– Я не згодзен, што тэксты ствараюцца. На самой справе, словы прыходзяць у галаву самі, быццам з космасу. А чалавек альбо можа ўспрыняць іх, альбо гэты голас будзе не пачуты.

У прэсе сустракаюцца сцверджанні, што я, маўляў, пішу свае тэксты спачатку па-руску, а потым перакладаю па-беларуску. Гэта абсалютна не так – усе рыфмы да мяне прыходзяць на беларускай мове. І толькі пасля гэтага, бывае, заглядваю ў слоўнік, каб праверыць сваё веданне роднай мовы. Я лічу, што пісаць па-руску і перакладаць – гэта не будзе натуральная беларуская мова!

**– Ты занадта шмат сіл уклаў у стварэнне новага альбому. Ці ёсць пачуццё задавальнення ад працы?**

– Пачуццё задавальнення, канешне, ёсць: засталіся ў мінулым некалькі месяцаў напружанай працы над матэрыялам альбому «Lusterka», за якую музыкам не плацілі грошай. І калі б не было нейкага маральнага задавальнення, то і не трэба было брацца за гэтую справу.

Я вельмі ўдзячны спонсарам выдання – кампаніі «BELPI» і іх уладальнікам Дзмітрыю і Сяргею Дайнекам. Іх уклад у выданне гэтай кружэлкі проста неацэнны!

У дадзеным выпадку пачуццё задавальнення ўзмацняецца і тым, што пад час працы я спазнаў шмат чаго новага, асабліва ў камп'ютэрнай галіне. Вельмі важна кожны дзень даведвацца пра нешта новае. Іначай будуць незадавальненне сваім існаваннем і творчы застой.

**– Як ты ацэньваеш працу тваіх сяброў па гурту «Ulis» пад час запісу новага альбому?**

– Я не займаюся ацэнкай іх працы, я проста стараюся ім дапамагаць, як і хлопцы дапамагаюць мне. Стараюся, па магчымасці, нікога не крыўдзіць. У гурце «Ulis», лічу, вельмі добры мікраклімат. Адзіная цяжкасць - музыкі бывае зыходзяць з гурта. Не таму, што гэта цяжкасці адносінаў, гэта – канфлікт нашага часу. Вось і цяпер, у Канаду з'ехаў наш бас-гітарыст Віктар Самарукаў. Але мы не губляем чалавечых і творчых кантактаў, пастаянна стэлефаноўваемся, кантактуем у інтэрнэце.

**– Слава, якія далейшыя крокі вы плануеце ажыццявіць для «раскруткі» вашага альбому «Lusterka»?**

– Перад усім, каб альбом меў поспех, я планаваў зрабіць на ім добры гук. Таму, што ўсе астатнія дзеянні ў нашых умовах фантасмагарыя. На жаль, у нас няма належнага прамацыйнага апарата. Таму прыходзіцца разлічваць толькі на свае сілы.

Я лічу, што якасць запісу «Lusterka» атрымалася вельмі добрай. З таго, што я чуў у Беларусі, наш новы альбом – лепшы з пункту гледжання гуказапісу.

Калі будуць магчымасці, будзем даваць канцэрты, здымем кліп. Але ўсё залежыць ад фінансавых сродкаў, якіх пакуль няма. Знойдзем, значыць будуць канцэрты, кліпы. Але якасць альбому – самы галоўны аргумент прамоцыіі «Lusterka»!

**Гутарыў**
**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

## Замежныя перадкалядныя забаўкі



У сталіцы Бельгіі Антверпэне абаронцы этычнага стаўлення да жывёл арганізавалі шоу ля футравага магазіна Mango. Удзельнікі акцыі паказваюць злосных неандэртальцаў, у якіх толькі і хапае розуму, каб здзіраць скуры з забітых жывёлін на адзенне, а потым біцца да смерці, каб авалодаць такой маёмасцю іншага неандэртальца. Уплыў гэтай прапаганды не надта значны, бо і сённяшні чалавек нязначна абагнаў папярэдніка ў стаўленні да жывёл.



У перадкалядныя дні ў англійскіх супермаркетах пакупнікам будуць дапамагаць вось такія санта-клаўсы і снягурачкі. Для нашага вока такія казачныя персанажы вельмі нязвыклыя.

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 2259
Падпісана да друку 18.12.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284–85–11